**Зарыцкі А.**
3-35 **У дарогу.** Мн., «Нар. асвета», 1973.
144 с. (Школьная б-ка.)

У зборнік уключаны лепшыя вершы паэта і паэма «Таварыш Саша». У творах апяваецца родная прырода беларускага краю, расказваецца пра поспехі савецкіх людзей у будаўніцтве сацыялізма ў нашай краіне, пра гераічную барацьбу народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны, пра мірную стваральную працу ў пасляваенны час.

Бел 2

3 $\frac{763\ 147}{М\ 303(05)73}$ 155-73

## ДАРОГАЙ ЖЫЦЦЯ

Гаворачы пра беларускую паэзію, нельга абмінуць творчасць Аляксея Зарыцкага, аўтара «Аповесці пра залатое дно», шматлікіх сюжэтна-лірычных і гумарыстычных вершаў, а таксама паэм «Пяцёра», «На волю», «Вяртанне на Зямлю».

Аляксей Аляксандравіч Зарыцкі нарадзіўся 22 сакавіка 1911 г. у мястэчку Хоцімск Магілёўскай губерні ў сям'і служачага. У 1916 г. бацькі пераехалі ў Рагачоў, «зялёны гарадок, які раскінуўся на рагу між Дняпром і Друццю».

У Рагачове А. Зарыцкі пасябраваў з будучым паэтам Алесем Жаўруком. Яны вучыліся ў адным класе, выпускалі гумарыстычную газету «Смех і слёзы», удзельнічалі ў школьнай самадзейнасці.

Заканчваў сярэднюю школу А. Зарыцкі ўжо ў Бабруйску, тут жа працаваў рабочым на цагельні, сарціроўшчыкам лесу на прыстані, электраманцёрам на дрэваапрацоўчым камбінаце. Потым пабываў у шахтах Данбаса, на Днепрабудзе, на рудніках Крыварожжа. Усё гэта пашырала яго кругагляд, давала добрую жыццёвую загартоўку.

Шаснаццацігадовым юнаком А. Зарыцкі надрука-

ваў свой першы верш у Бабруйскай акруговай газеце «Камуніст», рэдактарам якой быў тады М. Лынькоў. Там жа пачыналі выступаць са сваімі творамі і іншыя маладыя аўтары: В. Вітка, С. Грахоўскі, Хв. Шынклер, Б. Мікуліч. Творчая атмасфера ў газеце спрыяла ўзмужненню і росту маладых.

У 1932 г. выйшаў у свет першы зборнік вершаў А. Зарыцкага «Эпічныя фрагменты». Крытыка прыхільна сустрэла кнігу. У ёй быў пошук сябе, свайго голасу, было імкненне да натуральнасці і прастаты.

«Было ў тых першых вершах многа непасрэднасці, святла і сонца, многа маладога пачуцця і камсамольскага запалу,— успамінае Алесь Звонак.— Не забудзем, што гэта былі гады першай пяцігодкі, гады разгорнутага наступу за індустрыялізацыю краіны, гады гарачых спрэчак за пралетарскую паэзію і літаратуру. Даніну той паэзіі аддаў і малады А. Зарыцкі».

У 1938 г. А. Зарыцкага прызвалі ў Чырвоную Армію, дзе ён праслужыў аж да вясны 1946 г. У час вайны зноў піша вершы. Выходзіць з друку зборнік «Дняпроўскае рэха» (1946), у якім аўтар як бы пачынаў другі раз, але ўжо на новай аснове, маючы за плячамі значна большы жыццёвы вопыт.

Пасля 1947 г. А. Зарыцкі становіцца пісьменнікам-прафесіяналам, выходзяць яго кнігі «Залатое дно» (1950), «Вершы і паэмы» (1952), «Размова з сэрцам» (1961), «Вяртанне на Зямлю» (1966).

Творчы шлях паэта няроўны і няпросты. Ён доўга шукаў сябе, часам сумняваўся ў сваіх магчымасцях, але творчасці не пакідаў, настойліва вяртаўся да яе з новым запасам вопыту і ведаў.

«Калі б раптам здарылася так, што мне трэба было б пачынаць свой жыццёвы шлях нанава, то я, відаць, зноў дабіваўся б таго, каб паэзія стала маёй спадарожніцай»,— сказаў у аўтабіяграфіі А. Зарыцкі.

У першых сваіх вершах А. Зарыцкі пісаў пра грамадзянскую вайну, пра Днепрабуд, пра палескі вечар.

Адчувалася, што малады аўтар ведае і любіць творы А. Пушкіна, М. Лермантава, М. Някрасава, Я. Купалы, што ён умее выбраць выдатных настаўнікаў.

Адзін з ранніх вершаў А. Зарыцкага «Палескі вечар» (1937) напісаны пад уплывам паэзіі А. Пушкіна. У нашай краіне ў той год адзначалася стагоддзе з дня смерці вялікага рускага паэта. А для беларускіх пісьменнікаў, як старэйшых, так і маладых, паэзія А. Пушкіна заўсёды была крыніцай натхнення. У згаданым вершы А. Зарыцкага нямала ад А. Пушкіна: інтанацыя, рытміка. Верш напісаны пяцістопным ямбам, сцверджаным і класічна распрацаваным у вершах і паэмах А. Пушкіна:

Палескі вечар выйшаў на раку,
Брыдзе па ціхіх берагах паволі,
Спявае недзе дзеўчына ў садку,
Рахманы вол прылёг каля таполі.

Тут створаны цэласны паэтычны малюнак: усё жывое напрацавалася за дзень, а на зыходзе дня ціха і мірна адпачывае:

Гай засынае, спіць дрымучы бор,
І Прыпяці Дняпро шырокі спіцца,
Гарыць над самай кручаю касцёр,
Рыбацкі казанок над ім дыміцца...

Вечар тут як жывая істота: ён не наступіў, не спусціўся, а «выйшаў на раку» і ўсё падпарадкаваў сваёй сіле і ўладзе.

На беразе ракі гарыць касцёр, рыбакі гатуюць сабе ежу. Гэта калі гаварыць прозаю. А ў вершы

сказана паэтычна, і мы бачым выразна гэты малюнак: «Гарыць над самай кручаю касцёр...»

Пазней касцёр набывае сімвалічны сэнс: ён перарастае ў паэтычную дэкларацыю аўтара, сімвалізуе агонь творчасці. Малады паэт абвяшчае:

Хацеў бы я на гэтай кручы стаць
Кастром, што пахне дымам і
смалою,
Каб над ракой то полымем шугаць,
То іскрай узлятаць малою.

Як бачым, аўтар не схільны пераацэньваць свае творчыя сілы, ён разумее, што ў творчасці любога паэта могуць быць і ўзлёты і спады.

Нямала ўдач было ў яго зборніку «Дняпроўскае рэха». Тут вялікае месца займаюць патрыятычныя матывы, пачуцці любві да маці-айчыны, якая выстаяла ў бядзе і перамагла фашысцкую навалу, смутак па ахвярах, ёсць імкненне даць канкрэтныя замалёўкі бітвы, раскрыць думы і ўспаміны салдата («Вясёлка», «Размова з сэрцам»).

Уражанні ад вайны леглі ў аснову верша «Чаму шуміць цішыня?». Ён драматычны, як і большасць твораў на гэту тэму. «Пад Адэсаю мы катакомбамі крочым»,— гаворыць аўтар, дакладна вызначаючы месца дзеяння. Калісьці тут было мора, аб чым сведчыць камень-ракушачнік. Здаецца, што яно шуміць і цяпер, як бы апавядае аб трагічнай падзеі:

Тут учора стаялі насмерць партызаны,
Бы ў каменнай халоднай труне,
Тут у змроку бязгучным яны пахаваны.
Вунь пры свечцы імёны відаць на сцяне...

У цішыні катакомбаў воіны ўшаноўваюць памяць паўшых герояў.

«Паэту-салдату» — так называецца адзін з лепшых вершаў А. Зарыцкага, прысвечаны А. Вялюгіну, які абараняў Сталінград. Цяжкі ваенны лёс збліжае людзей розных узростаў, старэйшых і маладзейшых, бо мэта ў іх адна — як мага хутчэй вызваліць ад акупантаў родную краіну. Вайна навучыла салдата глядзець па-іншаму на многія рэчы, многаму навучыла:

Мы там зразумелі
З табою як след —
У бліндажы,
Ля агнёў пераправы,
Што воін-герой
І сапраўдны паэт
Па мужнасці —
Родныя сэрца праявы...

Аб ролі паэзіі ў жыцці народа, аб асаблівасцях работы паэта ёсць у А. Зарыцкага нямала ўдалых вершаў. У паэта, гаворыць ён, павінна быць чулае, спагадлівае, неспакойнае сэрца, у якое месціліся б і боль, і радасць другіх людзей:

...Юнацкая мара,
Бітваў грымоты,
Шчасце ясноты...

Усё павінна хваляваць паэта і знаходзіць месца ў яго сэрцы. Толькі глыбока перажытае і адчутае, выказанае потым трапным паэтычным словам можа ўсхваляваць людзей («Сэрца»).

А. Зарыцкі піша аб сустрэчах у час баявых паходаў («Было гэта ля Трансільваніі»), аб слаўным сыне беларускага народа Заслонаве, аб яго бяспрыкладным подзвігу («Заслонаў»). Спосаб паказу героя тут рамантычна-казачны. Не, не памёр Заслонаў, гаворыць

аўтар. Ляснік яго выратаваў, «глыбокія раны абмыў вадою з гаючай крыніцы». Заслонаў заснуў, каб набрацца дужасці і сілы:

А грозны наблізіцца час,
Не знойдзе Заслонаў спакою,—
Праз нетры прыскача да нас,
Сціскаючы верную зброю.

Гераічны вобраз К. Заслонава, рэальнага героя гісторыі, будзе служыць выхаванню новых змагароў-патрыётаў.

У форме народнага сказу напісаў А. Зарыцкі аб тым, «як хадзілі нашы хлопцы з Каўпаком», сцвердзіў думку, што нашы беларускія людзі, земляробы, смалакуры, дапамагалі вызваляць зямлю Украіны, таксама як прадстаўнікі розных нацыянальнасцей вызвалялі ад ворага беларускія землі. Ды не ўсе нашы хлопцы вярнуліся дадому, многія палеглі

Між Днястром і Санам,
За вірлівым Збручам,
Хто лёг за курганам,
Хто пад горнай кручай...

Кранае паэта і вельмі цяжкая тэма Бухенвальда, аднаго з многіх фашысцкіх лагераў смерці. Бухенвальд — гэта букавы лес. Але ў тым лесе «нават мясцінкі няма, дзе не ўпала б сляза альбо кропля крыві». Сёння там музей, і людзі з усіх канцоў свету схіляюць галовы перад ахвярамі вайны, клянуцца не дапусціць новай бойні, новых Бухенвальдаў, Лідзіц і Хатыней.

У распрацоўцы ваенна-патрыятычнай тэмы, як бачым, у А. Зарыцкага нямала ўдач. Прыкметнымі былі ў гэты час і яго спробы асвойваць беларускую

народную паэзію. Дабратворны ўплыў яе, прынамсі выкарыстанне мастацкай умоўнасці, мы бачылі на прыкладзе верша «Заслонаў». Ёсць у яго цікавая паэтычная легенда «Даўняя крыўда» пра Дняпро і Дзвіну, якія спярша плылі разам, а потым разлучыліся, палескае паданне «Іванка», дзе расказваецца пра Іванку і што «конь у Іванкі самы варанейшы, і сам Іванка за ўсіх смялейшы». Ён можа рашуча і да канца змагацца за сваё шчасце.

Па-свойму апрацоўвае А. Зарыцкі вядомую беларускую казку пра Вяля:

За тое Вяля палюбіў народ,
За тое Вяля сталі людзі славіць,
Што першым ён здабыў руду з балот
І першым стаў з яе жалеза плавіць.

Удалы каваль Вяль усё ўмеў зрабіць: стальныя сашнікі для сялян і меч для салдата, каб бараніць свой край. Ён і другіх людзей вучыў цяжкай кавальскай справе. Калі ж злыдні задумалі пагасіць сонца, то ўмелец-каваль са сваімі памочнікамі выкавалі новае сонца на радасць усім людзям.

Я часта думаю, што слаўны Вяль
Ёсць сам народ — цудоўнейшы каваль...,

— так заканчвае аўтар «Казку пра першага каваля».

У А. Зарыцкага ёсць схільнасць да твораў сюжэтна-лірычных і сюжэтна-апавядальных, якія па сутнасці з'яўляюцца вершаванымі апавяданнямі. Вось твор «Гузік». Аўтар так і зазначае: «расказ старой работніцы», дзе ён як бы пераказвае вершам пачутае ад жанчыны, імкнецца захаваць і яе мову, і спосаб глядзець на рэчы.

«Было гэта ля Трансільваніі»,— апавяшчае аўтар, і мы не сумняваемся: ён расказвае пра тое, што бачыў сам, выкарыстоўваючы форму сказа.

Спынімся больш падрабязна на сюжэтна-лірычным вершы «А млын меле...» Лірычная інтанацыя ў ім адчуваецца больш, чым у двух згаданых вышэй. Тут расказ вядзецца ад імя маладога геолага, што часова жыў са сваім сябрам каля млына ў Старой Рудні. Хлопцаў прывабіла смуглявая дзяўчынка, якая падрасла і стала дзяўчынай:

Хутка з ёй пасябравалі,
Сумавалі без яе мы,
Мы ў Марыны кнігі бралі,
То раманы, то паэмы.

Цікавай і змястоўнай была іх дружба ўтраіх, але неўзабаве Марына аддае свае сімпатыі сябру геолага. Расказчыка гэта вельмі турбуе. Ён трымаецца, імкнецца не паказваць сябрам свайго хвалявання, пакідае тую мясцовасць, але сэрца не можа забыць першага сур'ёзнага перажывання, ды і грукат млына, дзе б яго ні пачуў, нагадвае яму пра першае каханне і растань.

Як бачым, такі верш можна пераказаць сваімі словамі блізка да тэксту, і твор амаль што нічога не страціць. Лірычны ж верш «Палескі вечар» так пераказаць нельга, бо ў ім даецца паэтычны малюнак палескага вечара. Роля ўласна-лірычнага элемента там куды большая, чым у гэтым выпадку.

А. Зарыцкі і ў сваіх вершах і ў некаторых паэмах («Таварыш Саша») часта звяртаецца да апавядальнай вершаванай формы. І ў гэтым яго адметная пісьменніцкая манера.

Асноўная задача літаратуры пасля вайны — паказваць, як аднаўляецца жыццё ў краіне. А. Зарыцкі не

стаяў у баку ад гэтага патрабавання часу. Тэма аднаўлення асабліва выразна раскрыта ў лепшым яго творы — «Аповесці пра залатое дно» (1952—1953). У паэме распрацоўваецца тыповы для навуковага асяроддзя канфлікт, паказаны розныя тыпы людзей, а разам з тым пастаўлена і важная народнагаспадарчая праблема, звязаная з асушкай палескіх балот. Паэма эпічная; у ёй праявіліся лепшыя якасці творчага почырку паэта, непарыўна з'ядналіся лірычная аснова і сюжэтнасць, сатыра і гумар.

Высока ацаніў у свой час паэму беларускага аўтара вядомы рускі паэт М. Ціханаў за ўменне зліць у адно цэлае некалькі стылёва-жанравых элементаў, за яе закончаную і дакладную кампазіцыю.

Ёсць у А. Зарыцкага паэмы «На дзвінскіх парогах» — аб каханні беларускага хлопца да латышскай дзяўчыны; «Таварыш Саша», прысвечаная канкрэтнай асобе,— рэвалюцыянеру з Заходняй Беларусі А. І. Самуйліку.

Гераічныя характары заўсёды прыцягвалі ўвагу А. Зарыцкага. Вось і ў паэме «Вяртанне на Зямлю», фантастычнай па форме, ён захапляецца смеласцю і адвагай Чалавека, пакарыцеля космасу, яго прагай да пазнання Сусвету. Талент чалавека стварыў сабе надзейнага памочніка — дасканалы тэхнічны апарат-робат, які можа весці самыя дакладныя разлікі, кіраваць палётам касмічнага карабля, угадваць настрой і думкі свайго гаспадара-касманаўта. Але робат не можа замяніць блізкага чалавека, не можа даць душэўнай чалавечай цеплыні, і касманаўт з нецярпеннем чакае звароту на родную Зямлю, сустрэчы з роднымі, з домам. Як і ў іншых творах фантастыкі, тут навуковая ідэя набывае канкрэтнае аблічча і дзейнічае нароўні з галоўным персанажам.

Тэма космасу цікавіла А. Зарыцкага даўно. Яшчэ ў вершы «Мая зямля» (1945) ён пісаў:

...І адлятае карабель апошні.
І я цягнуся да яго, стары-стары.
— Хутчэй!—
Крычаць мне касманаўты нецярпліва.
А я гляджу з тугой на снежныя бары,
На снежныя палі зямлі маўклівай.

Як бачым, А. Зарыцкі разумеў ролю і значэнне навукі і тэхнікі ў пасляваенным нашым жыцці. Разам з гэтым яго радавалі ў тыя першыя мірныя гады самыя звычайныя праявы і факты: пабудавалі ля плошчы дом, і туды ўсяляюцца шчаслівыя людзі:

...Ім тут
І любіць,
І малых гадаваць,
І раніцу плёскам бадзёрым страчаць...

Яго радуе дружная ранняя вясна з блакітнымі світаннямі і паўнаводнымі разводдзямі. Зямля вясною кліча да сябе хлебароба і абяцае добры ўраджай («Вясна»). Аўтар паэтызуе прыроду і працу як аснову дабрабыту. Жнівеньская раніца часам з'яўляецца ў яго вершах у выглядзе босай маладзіцы, якая «крочыць па расе і ў руках, абмытых ліўнем, сноп пшаніцы, як дзіця, нясе».

Тэма дзяцей і дзяцінства займае таксама значнае месца ў творчасці А. Зарыцкага («Лебедзі», «Навагодняя ёлка», «Гудок», «Хлопчык зайздросціць чайцы»).

Выбар жыццёвай дарогі,— гаворыць аўтар,—адказная часіна ў жыцці кожнага. Ён паэтызуе выпускны вечар школьнікаў як найлепшае свята маладосці:

Дваццаць лодак пайшло чарадой ад прычала.
Паплыла маладосць на прастор, паплыла.
Ей вялікае сонца насустрач устала,

А імклівая ластаўка ўзмахам крыла,
Летучы па-над плёсам, яе прывітала.

Сучаснасць у творчасці А. Зарыцкага як бы падсвечваецца гістарычным мінулым, напамінкам аб тым, як мы ішлі да свайго сённяшняга дня. Сюды адносіцца і верш «Кібальчыч», і творы аб Айчыннай вайне, у тым ліку паэма «Таварыш Саша», а таксама вершы «Напярэдадні» і «Чалавек з будучыні». Яны пра Леніна і Кастрычнік, пра сувязь гістарычных часоў і пакаленняў.

Паэмы і вершы А. Зарыцкага з іх шырокім ахопам праблем нашага жыцця — цікавая старонка ў беларускай паэзіі.

*М. БАРСТОК.*



## ЛАКАМАТЫЎ СВАБОДЫ

*Рэвалюцыя — лакаматыў гісторыі.*

К. Маркс.

Парваўся час,
Нацягнены нібы тугі сталёвы трос,
З календароў лісткі садзьмуў магутны подых.
У будучыню мчыць лакаматыў наўпрост,
Лакаматыў свабоды.

Адкрыты перад ім шырокі свет.
Мільгнуў Дняпро,
Мільгнула Віслы люстра.
Варшава шле вітанне ўслед,
Выходзіць Лодзь фабрычная насустрач.

А вось Берлін,
Вунь Эльба, дымны Рур.
І следам толькі гул мастоў чыгунны.
Паводле ўсіх законаў бур
Парыж узняўся, як і ў дні Камуны.

За ім Марсель устаў на поўны рост.
Бягуць насустрач новыя абшары,
Чапляюцца за Пірэнеі хмары,
У будучыню мчыць лакаматыў наўпрост.

*1931 г.*



## ПАЛЕСКІ ВЕЧАР

Палескі вечар выйшаў на раку,
Брыдзе па ціхіх берагах паволі,
Спявае недзе дзеўчына ў садку,
Рахманы вол прылёг каля таполі.

Гай засынае, спіць дрымучы бор,
І Прыпяці Дняпро шырокі сніцца.
Гарыць над самай кручаю касцёр,
Рыбацкі казанок над ім дыміцца.

Прынадны, трапятлівы аганёк,
Паселі побач рыбакі паўкругам.
І ўсё крычыць трывожна драч здалёк,
Шукаючы падругу дзесь за лугам.

Хацеў бы я на гэтай кручы стаць
Кастром, што пахне дымам і смалою,
Каб над ракой то полымем шугаць,
То іскрай узлятаць малою.

*1937 г.*



## ВЯЛІКІ ГІМН

Вялікай партыі вялікі гімн,
Як ён гучыць магутна і адважна!
Ён акрыляе сэрцы, з ім
Ісці і ў люты бой не страшна.

Ён сам каля славутых барыкад
На вуліцах, дзе сцяг Камуны ўзвіўся,
Пад свіст свінца,
Пад гул глухі гармат
З паўстаннем гнеўным
Разам нарадзіўся.

Эжэн Пацье [1] даўно ў магіле спіць,
Ляжыць над ім халодны, цяжкі камень.
Але яго крылаты гімн ляціць,
Як бурны вецер
Над мацерыкамі.

---

[1] Эжэн Пацье — французскі пралетарскі паэт, аўтар «Інтэрнацыянала».

Мільёны змагароў нястомна ён
Да найвялікшай справы заклікае,
А псам,
А ка́там —
Грозны шле праклён,
Ганебную пагібель прадракае.

*1937—1941 гг.*



## СВЯТЛО МАТЧЫНЫХ ВАЧЭЙ

Айчына-маці, колькі бед
Ты бачыла і слёз сірочых,
І ворагу глядзяць услед
З няўмольным гневам твае вочы.

Аднак у іхняй глыбіні
Ёсць бляск задумлівы, пяшчотны,
Як і раней. І толькі дні
Паклалі след на ім журботны.

Нязмерна цяжка нам было,
А вочы маці захавалі
І матчынай любві святло
І сум па тых, што ў бітвах палі.

*1943 г.*



## ТАК УСПЛЫВАЕ Ў ПАМЯЦІ ЧАСАМІ

Коні... Коні... Чую тупат,
Часам зброя бразне, часам цуглі.
Коннікі імчацца. Будзе бітва.
Колькі іх? Не злічыш.
Гэтак сніў даўно-даўно я
У няясным нейкім прадчуванні.

Хвалі... Хвалі... Чэзнуць, б'юцца
Аб дняпроўскі бераг, жвір і грэблю...
Бачу я ў таполях і каштанах
Гарадок над кручай.
У юнацтве я яго пакінуў,
А цяпер прыгадваю так часта.

Маці... Маці... Выйшла з хаты...
— Дзе мой сын? — пытаецца ў сустрэчных.—
Мо хто бачыў? Ці мо чуў хто, людзі,
Дзе ён? Адкажыце...
І цярэбіць вецер прыдняпроўскі
Над чалом яе сівыя пасмы.

Коні... Коні... Зноўку тупат,
І на захад, і на захад, захад
Коннікі імчацца. Бітва! Бітва!
Сэрца б'ецца моцна,
Адчувае блізкасць перамогі
І сустрэчы з любым родным краем.

*1943 г.*



## ВЯСЁЛКА

На месцы тым, дзе быў паром,
Дзе арахоўнік на выгодзе,
Ўдваіх з табою над Дняпром
Стаялі мы ў трыццатым годзе.
Пасля дажджу спраўляў прастор
Сваю ліпнёвую ўрачыстасць.
Памаладзеў зарэчны бор,
Гаі, лугі — усё дачыста.
І над сціхаючым Дняпром,
Над яснай далячыняй волкай
Зыходзіць долу з хмарных стром,
Зямлю вітаючы, вясёлка.
Як брама ў будучыню нам,
Яна паўстала над айчынай.
Вунь светлы шлях віецца там
Жытамі, ўзгоркамі, лагчынай.
І мы глядзелі на раку,
І дзесь зязюля закувала.
І мы пайшлі з табой. Руку
Ты мне даверліва сціскала.
Багата дзён, багата год

Мінула з той пары юнацкай,
Да родных зор, да родных вод
Прыйшоў я ў вопратцы салдацкай.
І разам ты са мной прыйшла,
Далонь твая ў маёй далоні...
І цяжкім быў наш доўгі шлях,
І пасівелі нашы скроні.
Няма тых прыдняпроўскіх дрэў,
Той прыдняпроўскае крыніцы,
Дзе я калісь цябе сустрэў,—
Усё стапталі чужаніцы.
Вярба старая — вось адна
Тут сведка нашай маладосці.
Пазнала, мабыць, нас яна,
Пад шаты запрашае ў госці.
І мы садзімся пад вярбой,
Пад той знаёмаю, зялёнай,
І мы прыгадваем з табой
Сяброў загінуўшых імёны,
І спалены вайной абшар
Яшчэ дыміцца перад намі,
Ды, як тады, з разрываў хмар
Вясёлка выйшла над палямі.
Яна нам значыць добры шлях
І ў добры час запалымнела,
Як на спустошаных палях
Густая рунь зазелянела.
Ты, як тады, ў юнацтве, мне
Руку дала, з маёй злучыла,
І мы пайшлі. І, як раней,
Вясёлка шлях нам асвяціла.

*1944 г.*



# ГУЗІК

*(Расказ старой работніцы.)*

I

Чалавечы век не вельмі доўгі.
Час — як плынь рачная. Непрыкметна
Год мінае, і другі, і трэці...
Дваццаць пяць іх гэтак прамінула
Спакваля. І часта мне здаецца,
Што зусім-зусім нядаўна
Я жыла яшчэ на Прэсні,
Працавала ў гардэробе
Клуба нашага завода.

II

А была вайна. Мужоў чакалі
Трэці год тады мы на пабыўку,
І ў паход сыноў мы праваджалі.
Быццам сёння, помню дзень марозны
У дваццатым у далёкім годзе,

На завод да нас прыехаў
Сам Ільіч праводзіць хлопцаў,
Развітацца з імі, словам
Узбадзёрыць іх бацькоўскім.

## III

Ён прыйшоў. Са мною павітаўся,
Усміхнуўся ветла і пакінуў
Паліто сваё і шапку,
Пацярэбленую трохі.
А вакол... вакол... ну проста бура —
Ільіча пазналі людзі.
І ўвайшоў ён хуткім крокам,
Вочы жмурачы з усмешкай,
Проста ў залу да народа.

## IV

І яму я пільна ўслед глядзела,
І трымала паліто ў руцэ я.
А прыгледзелася добра — бачу:
Самы верхні гузік адарваны.
Слова я нікому не сказала
І суровай ніткай моцна
К паліто прышыла новы
Гузік, што крыху не гэткі
Быў, як іншыя, з прыкметай.

## V

Колькі зім мінула, колькі вёснаў
Пасля даўняй той зімы суровай!
На яго гляджу сягоння зноў я,
На яго партрэт вялікі.
Ён такі, як у дваццатым годзе.

Як жывы, ён прада мною.
Ён у шапцы мне знаёмай,
І ў тым самым паліто ён,
З гузікам, што я прышыла.

## VI

Я прыгадваю часіну тую,
Як да нас прыходзіў ён на Прэсню,
Як з надзеяй мы сыноў чакалі,
Бы цяпер унукаў, з перамогай.
І прыгадваю той самы гузік,
І не ведаю, чамусьці
Вочы мне старыя засціць
Мімаволі. Што ты зробіш?
Слёзы — ведама, жанчына.

*1945 г.*



## АРЛІНАЯ КРЫНІЦА

Не пачуць табе, орле, ніколі
Ветру посвіст у жніваньскім полі,
Рэчкі плёскат ды шолах таполі:
Непрабудны твой сон непарушны...
Дзе ж ты, орле, дзе, родны і мужны,
Спіш цяпер? За якою далінай?
Пад якою шумлівай ялінай?
...Не шукайце магілы арлінай:
Кажуць, там, дзе Гастэлава сэрца
Перастала, успыхнуўшы, біцца,—
На тым месцы сягоння ліецца
З глыбіні нечапанай крыніца.
Вербы ўзнялі над ёй свае шаты,
І ваду з яе п'юць арляняты.

*1945 г.*



## СЭРЦА

Скнара я,
Вялікі скнара —
Што ні прыдбаю,
У сэрцы хаваю.
Юнацкая мара,
Бітваў грымоты,
Шчасця ясноты,
Веліч Радзімы
Любімай
І славы яе святло —
Усё гэта ў сэрца лягло.

А сэрца маё неспакойнае,
Трохі свавольнае.
Заснеш, выходзіць яно
Адно,
Праходзіць жытамі,
Гаямі,
Садамі,
Ідзе гарадскімі мастамі,
Дзе хвалі з начнымі агнямі

Калыпуцца мерна пад намі.
Выйдзе на бераг,
Дзе плытагоны расклалі кастры,
Пройдзе ля домнаў,
Дзе плавяць нястомна
Сонца за сонцам
Майстры.
То стукне дзяўчыне ў акно
Яно,
То зойдзе
У новую хату
К салдату,
То к юнаку завітае
І пакідае
Цёплага золата груды
Усюды.
Я — скнара, збіраю,
Хаваю.
А шчодрае сэрца,
Як зернейкі вецер,
Той скарб рассявае па свеце.

Вандруе яно да заранак,
А потым на мой узнімаецца ганак,
Прыходзіць і грукае ў грудзі,
І будзіць.

І я прачынаюся,
Ранне вітаю
І нашага сонца
Гарачыя фарбы,
І зноў я старанна збіраю
Для тысячы сэрцаў
Новыя скарбы.

*1945 г.*



## ДНЯПРО

Лугоў мурожных бачу я абрус,
Лясныя грывы, кручы і даліны.
З раўніны рускай цераз Беларусь
Ідзе Дняпро да мора, да Украіны.

Так тры краіны, родных трох сясцёр,
Тры сэрцы шчырых, мужных тры народы
Дняпра спакойны велічны прастор
Злучае плынню яснай назаўсёды.

І лёс сясцёр адзін, адна ў іх кроў,
Адно ў іх шчасце і адна любоў.
Радзіўся я ў дняпроўскай старане,
Малодшая сястра — радзіма мне.

І горды я, што вырас ля Дняпра,
Што шыр рачная мне ў душу запала
Даўно, як ля рыбацкага кастра
Я грэўся хлапчуком яшчэ, бывала.

І слова даў я вернае тады,
Што, дзе б ні быў, Дняпро мой помніць родны.

І многа рэк за гэтыя гады
Пабачыў я, прайшоўшы шлях паходны.
Ды сніўся мне Дняпро, і дым кастра,
І Беларусь — малодшая сястра.

*1945 г.*



## МАЯ ЗЯМЛЯ

Не золата, не перлы, не каралі,
А вечнае жыццё мне ў падарунак далі,
Жыву я, чалавек,
Складаю песні
Пра бітвы даўнія,
Пра час юнацкі, весні.
І халасцяк усё:
Як смертным прызнавацца,
Што суджана ўдаўцом мне заставацца.
А час ідзе, губляю лік гадоў
І песень лік, што склаў для юнакоў.
Нязменны сведка, бачу, спакваля
Інакшай робіцца мая зямля:
Не так цвітуць сады,
Не так шумяць азёры,
Іначай свецяць сонейка і зоры.
Закон адвечны змен.
Для ўсіх закон такі.
А час ідзе,
Гады...
Вякі... вякі...

Мільёны год мінулі.
Холад на зямлі
Няўмольна інеем ахутвае планету.
Пара!
Няспынна адлятаюць караблі
На іншую зямлю,
На край сусвету,
Дзе цёпла,
Дзе гаі і пожні,
Дзе васількі,
Дзе зелянее лісце,
Як на зямлі маёй калісьці.
...І адлятае карабель апошні.
І я цягнуўся да яго, стары-стары.
— Хутчэй! —
Крычаць мне касманаўты нецярпліва.
А я гляджу з тугой на снежныя бары,
На снежныя палі зямлі маўклівай.
Як развітацца цяжка мне з маёй
Маленькай пасівелаю зямлёй,
Дзе змагары з пашанай пахаваны,
Вялікіх, грозных бітваў ветэраны,
Дзе поруч з імі я ішоў — салдат,
Дзе спраўдзілі надзей вялікіх шмат,
Дзе новых нарадзілася нямала,
Дзе калыханку маці мне спявала,
Дзе я сказаў упершыню: «Люблю».
Ну як пакінуць гэткую зямлю?
Ды клічуць зноў сябры.
А я заўжды з сябрамі.
— Хвіліначку,
Лячу
На край сусвету з вамі.

*1945 г.*

3 Зак. 204



## ЛЕБЕДЗІ

Шуміць каля вуліцы Энгельса сад,
Там ліпа, таполя, каштан,
Там пад аховай цяністых прысад
Плюскоча фантан.

І лебедзь высока ўзнімае крыло
На крушні, замшэлай ледзь-ледзь,
Ды птаха рукой хлапчанё абняло,
Яго не пускае ўзляцець.

Той хлопчык каменны,
Той лебедзь каменны
Ніяк не абсохнуць за дзень:
Цурчыць з лебядзінае дзюбы праменны
Крынічны струмень.

— Я з лебедзем, тата, хачу падружыць
І хлеба кавалак яму пакрышыць,—
Гаворыць малая дачка мне
Ля шэрага лебедзя з камня.

— Пакрышы, пакрышы,—
Я дзяўчынцы кажу,—
Я скора жывога табе пакажу.
За сквер пазіраю: ля самых галін
Даўгі экскаватар відзён.
Варочае груды рудыя руін
Са скрогатам скіўіцай ён.
Прасторную плошчу раўнуе жалезам,
А мы яе клёнам засадзім і бэзам,
І будуць фантаны і возера там,
І прыляцяць раннім чэрвенем к нам
Жывыя, лясныя, нясмелыя
З Нёмана,
З Прыпяці,
З Беседзі
Белыя,
Белыя
Лебедзі,
Лебедзі!

*1947 г.*



## КАРАБЕЛЬ

Будынак закончан сягоння зусім,
І чэрвеньскі дождж увішнымі кроплямі
Малярскае фарбы пабляклую сінь
Змывае з запырсканых клёнаў пад вокнамі.

І высіцца сталы над плошчаю дом:
І нумар ён мае,
І дзверы парадныя.
На першым паверсе
Адкрыт гастраном,
На верхнія —
Рэчы заносяць прыватныя.

Адтуль галасы навасёлаў гучаць.
Агледжана ўсё жыхарамі стараннымі:
Ім тут
І любіць,
І малых гадаваць,
І раніцу плёскам бадзёрым страчаць
Празрыстых, імклівых струменяў пад кранамі,

З балконаў ім Свіслач відна і палі,
І трубы заводаў дымяцца на ўскраіне,
Як быццам пары развялі караблі
І ў мора выходзяць,
У плаванне.

А следам за імі і дом-карабель
Плыве на прасторы вясновых зямель.
Яму парусамі блакіты,
А вокны адкрыты,
А шыбы дажджамі абмыты,
А шлях яму сонца паказвае ветлае,
І даль перад ім рассцілаецца светлая.

*1947 г.*



## ВЯСНА

Не было даўно ў краіне роднай
Ні такой вясны жаданай, ранняй,
Ні такіх разводдзяў паўнаводных,
Ні такіх блакітаў на світанні.

І даўно зямля дасвеццем росным
Хлебароба гэтак не чакала,
І даўно не клаліся барозны
Так глыбока й роўна за адвалам.

Чуецца цяпер і ўдзень, і ўночы,
І перадсвітальнаю парою,
Як вясна далей на поўнач крочыць
Маладою лёгкаю хадою

Аж туды, дзе снежныя Саяны
Узняліся ў неаглядных далях,
Дзе шумяць два грозных акіяны,
Караблі калышучы на хвалях.

*1947 г.*



## ВЯСЕННІ СОН

Ад відна араў хлапчына гоні,
Ветрам ён усмак надыхаўся сягоння,
Столькі сонца бачыў маладога,
Ходзячы за плугам па аблогах.

Засынае. Стома. Позні вечар.
Песня жаўранка яшчэ ў вушах трапеча.

І чутно за вёскай ворыва начное —
Трактары аруць пад яравое.
І заснуў хлапчына моцна. Сніцца:
Адзвінела ў лузе касавіца,

Зноў атава вырасла высока,
Зноў жыруюць качкі маладыя,
Зноў распіхвае румяным бокам
Спелы жытнік лісцейкі густыя.
А ў нябёсах ясна — ні хмурынкі,
І не вее вецер з Наднямоння.

Ён ідзе з брыгадай на зажынкі
К тым аблогам, дзе араў сягоння.
Жыта бурштыновага настою
Там стаіць сцяною залатою.
Гайсануў, здаецца, вецер смела б,
Хвалямі, як Нёман, зашумела б.

*1947 г.*



## ЖНІВЕНЬСКАЯ РАНІЦА

Дождж прайшоў,
У кроплях арабіна.
Кожны ліст
Зіхціць, як самацвет.
Уставай хутчэй, мая дружына,
Паглядзі на волкі, цёплы свет.

Глянь — у полі
Ярка над сцяжынкай
Замільгала лёгкая хусцінка.
Гэта раніца спяшае жніўня,
Босай маладзіцай
Крочыць па расе
І ў руках,
Абмытых ліўнем,
Сноп пшаніцы,
Як дзіця, нясе.

К нам ідзе!
Пакліч сваю брыгаду —
Галасістых жартаўлівых жней.

Хай усе
Ідуць гурбой у хату,
Песню запяюць дружней.
Ды святліцу прыбяры як трэба,
Засцялі абрус
І снедаць прыгатуй,
Малаком і мёдам
З новым хлебам
Дарагую госцейку частуй.

*1947 г.*



## ПАЭТУ-САЛДАТУ

*Жыцця майго і смерці пераправы*
*І Сталінград дагэтуль сняцца мне.*

Анатоль Вялюгін.

Мы песні складалі
Пра маладосць,
Пра любоў,
Чыталі філосафаў,
Лёталі ў Арктыку,
Калі ты падлеткам
Ганяў галубоў
У Віцебску на Пескавацiку.

Але нам аднолькавы
Выдаўся лёс,
І шляхам прайшлі мы адзіным
Пад родным блакітам
Прабітых навылет нябёс
У бітвах за шчасце Радзімы.

Мы там зразумелі
З табою як след —
У бліндажы,
Ля агнёў пераправы,
Што воін-герой
І сапраўдны паэт
Па мужнасці —
Роўныя сэрца праявы,

Адданага сэрца,
Якое жыве
Дыханнем і доляй Айчыны,
Якое ад цёплага цела яе
Адняць,
Адарваць немагчыма.
Вучыўся пясняроскаму ты рамяству
У вопратцы слаўнай
Салдацкай,
Рыфмуючы ў вузкім акопе жарству
З уласнай крывёю
Юнацкай.

А міма ішлі нестрымана палкі
У пераможным
Узрушаным гуле.

. . . . . . . . .

Напэўна, таму
Твае кнігі радкі
Мяне так глыбока кранулі,
Што хвалі ў іх плешчуць
Крутых пераправ
І зырка шугаюць
Агні Сталінграда,

Што сэрца
Сапраўднае ў іх я пазнаў —
Адданае сэрца
Паэта-салдата.

*1947 г.*



## БЫЛО ГЭТА ЛЯ ТРАНСІЛЬВАНІІ

Далёка ад нашай Радзімы
Шляхі баявыя канчаліся.
Да Трансільваніі йшлі мы,
На Будапешт прабіваліся.

Узгоркамі бегла крутая дарога,
Удалечы Альпы цясніліся.
Мы на прывал пасля маршу начнога
За нейкай румынскай сялібай спыніліся.

Пачуўся нам блізкі рып і грукат,
Аж гэта побач, у засені букаў,
Крупадзёрка грыміць, як вясковы масток
У коней пад капытамі.
Стаіць ля варот румын-дзядок,
Па-руску вітаецца з намі.

Бародка яго па старасці срэбная,
Кашуля — па беднасці зрэбная,
Лапці — са скуры-сырыцы,
Ярка з-пад шапкі блішчаць завушніцы.

А ў крупадзёрцы драўляны круг
Круцяць коні ў пыльным паўзмроку,
Б'юць хвастамі дакучных мух,
Крочаць і крочаць, а ўперад — ні кроку.

І жаласна круг драўляны рыпіць:
То ўголас,
То раптам ціха.
Здаецца, ён канькае:
— Піць, піць,—
Што тая каня-старчыха.

А можа, то скарга коней старых
І канагона — сівога румына —
На скруху бядацкую
Летаў і зімаў сваіх
Гучыць у гэтых сценах няспынна?

Тады ўсё жыццё зразумеў я старога.
Як рос і рабіў ён,
Аб чым пратужыў.
— Як маешся ты,—
Запытаў я,— нябога,
Як ты свой век, чалавеча, пражыў?

І рукі падняў румын-батрак,
У мазалях шурпатых далоні.
— От так пратаптаўся на месцы.
От так,
Як гэтыя самыя коні.

Мы дзеду сказалі:
— Таварыш, бяда
Не вернецца болей у вашу краіну.
І з гордасцю кожны тады прыгадаў
Савецкую вольную нашу Айчыну,

Адкуль праз усе франтавыя нягоды,
Праз бітвы яшчэ небывалыя

Мы неслі штандары вялікай свабоды
Шырокія,
Веснія,
Алыя.

І ў гэты занеслі гаротны куток,
Закінуты ў глуш,
Дзе маўклівыя горы,
Дзе ў зрэбнай кашулі пахілы дзядок
Прад намі стаяў,
Як жывое народнае гора.

*1947 г.*



## ПРАЛЕСКІ

Яшчэ сакавік
Апошняй сняжынкай
Віецца ў бары над сцяжынкай,
А на праталінах,
Дзе пералескі
Сасновыя,
Красуюцца краскі пралескі —
Першыя госці вясновыя.
І як пасвятлелі адразу ад іх
Хмурыя нетры й палянкі.
Пад вечар той сцежкай ідуць утраіх
Дамоў лесарубы з дзялянкі.
Даходзяць яны да праталін,
Пралескі пабачылі — сталі.

Малодшы ірве іх увішна:
Насустрач дзяўчына яму
За ваколіцу выйшла.
Другі тыя краскі з усмешкай збірае:
Дачка лесаруба ля хаты чакае.
А трэці, задумны, не кажа нічога,
Пралескі для сябра ірве баявога —

Ён тут, недалёка,
У шэрай кубанцы прабітай
Ляжыць над хвайнай высокай,
Снегам яшчэ апавітай.

Вось і ноч.
Вось і пеўням спяваць неўзабаве.
Ставіць кветкі дзяўчына ў гарлачык на лаве.
Вось і ранак дыхнуў
На зямлю і нябёсы.
Уплятае дачушка краскі ў русыя косы.

Вось і сонца ўзнялося высока,
Зазіраючы ў пушчы
Так глыбока-глыбока
Цёплым вокам
Відушчым.

А за той агарожай, дзе хвоя
Шуміць над магілай героя,
Краскі пралескі ляжаць непамятыя,
Як раніцай неба —
Ледзь сіняватыя.

Іх рукі паклалі
Гарачыя, братнія.
На красках растаці
Сняжынкі астатнія.

*1947 г.*



## ЗАСЛОНАЎ

Гавораць, што ў цёмным бары
Заслонаў у бітве загінуў
І там пахавалі сябры
Яго пад высокай хваінай.
Няпраўда!
Ён ранены лёг
На верас, сціскаючы зброю,
І глушшу нязнаных дарог
Ляснік яго нёс пасля бою.
І ў дзіўную пушчу забрыў,
Дзе ў студзені пахнуць суніцы,
Глыбокія раны абмыў
Вадою з гаючай крыніцы.
Лісцця насцяліў і травы,
Прыкрыў ён шынелем змаганца.
Заснуў той пад шум баравы,
Каб дужасці новай набрацца.
Сяброў і Радзіму ён сніць,
У сне іх імёны шапоча,
А поруч і зброя ляжыць,
І конь капытамі грукоча.

А грозны наблізіцца час,
Не знойдзе Заслонаў спакою —
Праз нетры прыскача да нас,
Сціскаючы верную зброю.

*1947 г.*



## ЯК ХАДЗІЛІ НАШЫ ХЛОПЦЫ З КАЎПАКОМ

Ішоў Каўпак з-пад Бранска
Паўз Гомель на Тураў.
Над Чырвоным возерам
Зрабіў перакур.
Багата нашых хлопцаў,
Земляробаў, смалакураў,
Падаліся ў войска
К дзеду Каўпаку.

Просяць хлопцы бою,
Даў Каўпак ім зброю.
Сам ад іх прысягу
Прымае пад сцягам:
Кожны хай клянецца
Нідзе не схіліцца,
Покуль сэрца б'ецца,
За Радзіму біцца.

Пайшлі на Житомір —
За Вінніцай пошчак.

Падышлі да Буга —
Зашумела Польшча.
Дняпроўскаю плынню,
Баявою лавай
Праходзяць Валынню
Аж да Станіслава,

Туды, дзе Карпаты
Ірвуць гарбамі хмары,
Дзе ля скал шурпатых
Гуцул пасе атары.

Бой не ціхне грозны
Аж усю нядзелю,
Ад крыві барозны
Ў долах парудзелі.
Не прабіцца хлопцам,
Хлопцам-каўпакоўцам.

Ды ўжо крочаць шпарка
Па кручах высокіх
Гуцулы ў браварках
І брылях шырокіх.

Ёсць па стрэльбе добрай
У кожнага ваякі,
Ды латронаў торба,
Ды капшук табакі.

Прыйшоў панядзелак,
Па далінах збожжа
Макам заірдзела
Ад крыві варожай.

* * *

З новай сілай немец едзе,
А дарма.
Вее вецер, вее недзе —
Каўпака няма.
Мо Гуцульшчыну ён кінуў
Ды пайшоў на Букавіну?
Мо падаўся ў братні край
Ён славакам на падмогу?
Ці пазнаеш? Адшукай
Вольнага арла дарогу!

А гуцулы п'юць, гуляюць,
Ходзіць чарка па руках.
Кабзары іх услаўляюць
Генерала Каўпака.

* * *

Са славаю прыехалі хлопцы нашыя з вайны,
З дальняе, з адважнае, з гуцульскай стараны.
Ды не ўсе вярнуліся з тых краёў дамоў —
Многа засталося там нашых дзецюкоў
Між Днястром і Санам,
За вірлівым Збручам,
Хто лёг за курганам,
Хто пад горнай кручай.

Сном багатырскім
Хай ім лёгка спіцца,
Хай ім Палессе роднае прысніцца.
Хай туды і песня тая данясецца,
Што пра іх над Прыпяццю пяецца.

*1947 г.*



## ГЕОГРАФ

Здаецца, ўчора развітаўся ён
З геаграфічным факультэтам.
А скора год.
Шуміць па-майску клён,
Ралля ў зялёнае адзета,

За школай жыта й зыркі бляск ракі,
Залітай сонцам быстрай Гайны.
І чуе ён,
Як дружна жаўрукі
Пяюць над нівою бяскрайняй,

Такою клас напоўнен цішынёй,
Так слоў ягоных дзетвара чакае.
Вось карта пад яго рукой
Разгортваецца,
Ажывае...

Да Гайны набліжаецца Урал:
Уцёсы,
Домны,
Кручы,

Кедры,
І следам гоняць акіянскі вал
З-за прыамурскіх сопак ветры.

Высока прыўзняліся Жыгулі,
Агорнутыя волжскім раннем.
Маскоўскія заставы прагулі
Маленькай Гайне прывітанне.

А дзень міне,
Адзвоняць жаўрукі,
Часіна прыйдзе адпачыну,
Калгасныя дзяўчынкі й хлапчукі
Ўсё будуць думаць пра Айчыну.

Ім будзе Волга хвалямі шумець,
У госці завітаюць горы.
Ім будуць зоры ветла палымнець,
Крамля рубінавыя зоры.

*1948 г.*



## ЗАПАВЕТ

Многа мы пасля вайны
Яблынь пасадзілі.
Падраслі цяпер яны
І загаманілі

На харошай, маладой,
На вясновай мове,
У зялёнай,
У густой
Вопратцы-абнове.

І за гэты час як след
Падраслі ў матулі
Тыя дзеці, што на свет
Першы раз зірнулі.
У той час, калі прыйшлі
Мы з вайны, з чужыны,
Ды засеялі палі
Жытам,
Канюшынай,
Ды пачулі нашых ніў
Гоман на прасторах,

Дзе наш плён агнём глуміў
І жалезам вораг.

А імёны для сыноў
Мы абралі нашых
Дарагіх сяброў-байцоў,
За Радзіму паўшых.
Там — на волжскіх берагах,
Сталінградскіх кручах,
У лясах на верасах
Нёманскіх гаручых.

Хай на многа зім і лет
Маладым і мужным
Іх імёны — запавет
Самы непарушны:
Ад нягоды, ад бяды
Засланяць сабою
Нашы юныя сады,
Шчасце маладое.

*1948 г.*



## НАВАГОДНЯЯ ЁЛКА

Дзяўчынка стала каля маці,
Яна сягоння першы раз
Глядзіць на ёлку ў новай хаце,
Дзе столькі цацак і акрас.

Біў кулямёт з яловай гушчы
Па беласнежнай цаліне,
Як нарадзілася ты ў пушчы
У цёмным, нізкім будане.

З імглы завейнай на прылессе
У маскхалатах немцы лезлі.
І маці ў гэтую хвіліну,
Калі займаўся грозны бой,
Пад выбухі і страляніну
Пачула першы крык малой.

А сёння каля ёлкі ходзіць,
Пяе дзіцячы карагод,
І з новым шчасцем узыходзіць
Ужо на ганак Новы год.

Скрозь сухазлотам апавіта
Ігластая сям'я галля,
І дзед-мароз так самавіта
Стаіць унізе, ля камля.

Утульна ззяе ёлка ў хаце,
Святлом заліты ўвесь пакой.
І ты ў святочным белым плацці
Да ёлкі цягнешся рукой.
А ў пушчы разляглася рэхам
Завея ля глухіх палян
І засыпае мяккім снегам
Стары прастрэлены будан.

*1948 г.*



## ГЭТЫ ЧАС НЕ ЗА ГАРАМІ

Гаварыў паэт вялікі недарма,
Што ў яго жадання іншага няма —
Толькі жыць
і жыць,
Імчацца
скрозь
гады
Маладым праз вецер маладны.

Гэта ж даўняя людская мара —
Падначаліць смерць і клопату не знаць.
Але смерць, нібы капейку скнара,
Лішні год баіцца перадаць.

Шмат пакуль у смерці памагатых,
Ворагаў жыцця заклятых.
Ім карціць
Нашу дзетвару асіраціць,

Наша жыта вытаптаць калгаснае,
Нашы зоры пагасіць нязгасныя.

Іх канец вядомы. Як там ні круці —
Давядзецца к чорту ім пайсці.

На падкорм пасеву пойдзе порах,
На плугі гарматы перальём.
І адзін у чалавека застанецца вораг,
Той, што смерцю мы завём.
Смерці без падручных
цяжка будзе —
Паўнамоцтвы ёй як след
урэжуць людзі.

Прыйдзе смерць уночы да старога,
Скажа:
— Ты пражыў свой чалавечы век,
Час ужо ка мне ісці, нябога.

Ды адкажа смерці чалавек:
— Ты дарма, старая, прыкульгала,
Тут няма чаго рабіць табе,
павер,

Ты, напэўна, ад жыцця адстала:
Чалавечы век даўжэйшым стаў цяпер.
Не раней як праз гаўсотню год
Зноў зайсці табе я дазваляю,
У мяне багата ёсць турбот,
Неадкладных спраў яшчэ я многа маю.

Трэба акіяны мне грамераць,
Растапіць на поўначы спрадвечны лёд.
Трэба за нябёсамі праверыць
Новы дасканалы зоралёт.

Трэба мне малых дагадаваць,
Трэба праўнука вяселле адгуляць.

Будзе так, яно не за гарамі,
Добры ў заўтра мы ўзялі разгон.

Дружа мой, мы сёння бачым самі
Памагатых смерці чорны скон.
Блізак час, чаканы, залаты,
І засведчым гэта я і ты.

*1951 г.*



## А МЛЫН МЕЛЕ...

З другам зноў я ў Новай Рудні,
Зноў жыву з ім каля млына.
Млын і ў свята,
Млын і ў будні
Меле, меле безупынна.

Колісь смуглая дзяўчынка
Тут з падружкамі гуляла.
Помню, што яе Марынкай
Называлі мы, бывала.

Збегаць у сельпо прасілі
Па запалкі й папяросы.
І насіла яна сіні
Каснічок у русых косах.

А цяпер глядзім — дзяўчына,
Пашукай — не знойдзеш роўнай.
І завуць яе — Марына,
Дадаюць яшчэ — Пятроўна.

Хутка з ёй пасябравалі,
Сумавалі без яе мы,
Мы ў Марыны кнігі бралі,
То раманы, то паэмы.

Лодка ўвечар нас чакала,
Несла нас ракою плыннай,
І Марына запявала,
І спявалі мы з Марынай.

Чайка кружыць над затокай,
Кулічок крычыць з адмелі.
Мы вяслуем, а далёка
Млын памалу меле, меле...

Так пад шум няспынны млына
У палескай Новай Рудні
Стаў я думаць пра Марыну
І часцей і неадступней.

Жыта ў голі палавее,
Тчэ смуга свае палотны,
І хаваю ўсё ў сабе я
Скарб вялікі і пяшчотны.

* * *

Неяк я ішоў з работы
Позна. Справы затрымалі.
Стомлены. Прамоклі боты.
Камары апанавалі.

І сардэчна быў я рады
Млына шум пачуць, усплёскі,

Бачыць, як мне са спагадай
Аганькі міргаюць з вёскі.

Млын грыміць, грыміць няспынна.
Плешча вір пад колам шумна.
Я пад гэты грукат млына
Запяваю легкадумна:

— Мельнік меле ды пытлюе,
Абярнецца пацалуе...
І ўстае перада мною
Закаханы, рупатлівы,
Зацярушаны мукою
Мельнік радасны, шчаслівы.

Месяц з хмары выплывае,
Асвятляе даль паволі.
Пара нейкая гуляе
Там, дзе ліпы і таполі
За ваколіцай вясковай.
І я ў тую жа хвіліну
Пазнаю беспамылкова
Друга лепшага й Марыну.

Сціснуў хтось мне сэрца туга,
На кавалкі грудзі рвуцца.
Паплавамі даў я круга,
Каб з сябрамі размінуцца.

Не заснуць. Ляжы і слухай,
Як цвірчыць цвыркун самотны.
Закурыць бы. Скруха... скруха,
Што асенні дзень маркотны,

Хмары гоніць, нізка сцеле.
А млын меле, меле, меле.

Раннем мне яна гаворыць:
— Як ты блага выглядаеш.
Што з табою? Можа, хворы
Ці якое гора маеш?

— Хворы, гора? Што ты, што ты,—
Я ў адказ ёй усміхнуўся,—
Недаспаў крыху, з работы
Надта позна я вярнуўся.

* * *

Бачу я, Марына рупна
Усё шые ды гаптуе —
Ручнікі яна і сукні
Да вяселейка гатуе.

Неяк мне дзяўчына кажа:
— Зноў ты нешта зажурыўся,
Быццам ты аб дружбе нашай,
Нашай шчырасці забыўся.

Быццам ты зусім не рады
Майму шчасцю маладому,
Невясёлы паўз прысады
Ты ідзеш заўжды дадому.

Як хацелася тады мне
Ўсё сказаць, што сэрца мела.
І адказ усё нястрымней
Прабіваўся к вуснам смела.

Ды падумаў я — не трэба
Нейкі цень на шчасце класці.

Хай, як жнівеньскае неба,
Без хмурынкі будзе шчасце.

Хай, як роўны, разам з імі
Горда я прайду і проста
Цераз вёсны, леты, зімы
Шлях аддана́га сяброўства.

* * *

У дарогу рыхтавацца
Часу дадзена нямнога.
З новай Рудняй развітацца
Давядзецца мне надоўга.

Як заўжды, наш брат геолаг,
Скарб шукаючы, блукае,
Сустракае ў полі золак,
Ноч у пушчы сустракае.

Ці пад дахам я начую,
Ці пад зоркаю світальнай,
Чую ў сне я, часта чую
Грукат млына дальні-дальні.

Меле млын і не змаўкае,
Рэха ў лесе бродзіць недзе,
А праснешся — ціш такая,
Нібы ўсё заснула ў свеце.

Бор дрымотны не шапоча,
Згас касцёр перад світанкам,
І табе глядзіць у вочы
Пільна першая заранка.

* * *

Гэтак мне не давялося
Быць у Рудні на вяселлі.
Я прыехаў к ім увосень,
Як антонаўкі паспелі.

Вераснёвымі барамі
Бегла хуткая дарога.
Цёпла стрэўся я з сябрамі
Ля жаданага парога.

Гаварыў мне кожны подых,
Слова кожнае казала —
Шчасце моцнае і згода
Уладараць тут трывала.

Толькі гэты млын-назола
Не дае ніяк спакою.
Дзень і ноч грукоча кола
Над асенняю ракою.

Меле млын, а мне не спіцца:
Думкі сэрца мне трывожаць.
Можа моцна яно біцца,
А забыць яно не можа.

Мусіць, колькі жыць на свеце —
Не забыць мне грукат млына.
Будзе жонка, будуць дзеці,
Пасівее ўся чупрына.

Ды, як толькі дзе ў дарозе
Грукат млына данясецца,
Зноў у смутку і ў трывозе
Зашчыміць раптоўна сэрца.

*1936—1952 гг.*



# КАЗКА ПРА ПЕРШАГА КАВАЛЯ

За тое Вяля палюбіў народ,
За тое Вяля сталі людзі славіць,
Што першым ён здабыў руду з балот
І першым стаў з яе жалеза плавіць.

Ён для сахі зрабіў стальныя сашнікі,
Каб у палях глыбейшымі былі баразны,
І меч стальны для мужнае рукі,
Каб бараніць свой край,
Як час надыдзе грозны.

А колькі селішчаў Вяль абышоў,
Вучыў людзей кавальскай справе
трудцай.
Нястомна ў глыбіні глухіх лясоў
Закладваў рудню ён за рудняй.

І руская зямля дагэтуль скрозь
Яго сляды ашчадна захавала:
Ёсць Рудні новыя,
Старыя Рудні ёсць,

І проста Рудняў ёсць яшчэ нямала...
Жыве сабе шчаслівы, слаўны Вяль,
Адменную гартуе сталь
Ён з кавалямі маладымі,
Сябрамі добрымі сваімі.

Ды вось гадзіна грозная прыйшла,
Бяда на крылах груганоых прыляцела:
Над белым светам чорная імгла
Запанаваць навечна захацела.

Яна заве сваіх слухмяных слуг
І кажа ім:
— Спяшайцеся, ляціце,
У ясным небе сонца пагасіце,
Каб ноч стаяла вечная наўкруг.

І толькі сонейка за ціхі гай,
За сіне мора стала апускацца,
Марознай хмараю пад самы небакрай
Паспелі слугі змрочныя узняцца.

І ўпала сонца згаслае на дно
Сцюдзёнага, сівога акіяна...
І чайкі белай болей не відно,
І яркай краскі не відно вясняпай.

Матуля ўсмешку першую дарма
Свайго дзіцяці ўбачыць хоча.
Імгла вакол.
Стаіць над светам цьма.
І толькі дзе-нідзе бліскоча,
Нібы вугальчыкі, з пякельнае імглы
Халодны позірк
Воўчы, злы.

* * *

— Дзе ж наша сонейка,—
Сейбіт гаруе,—
Больш маё гонейка
Не заару я.

Гіне карміцелька
Маці-зямліца,
Больш маё жыцейка
Не ўскаласіцца.

Згінуць у холадзе
Бедныя дзеці.
Цёмначчу, ў голадзе
Як жыць на свеце?

* * *

Благаюць людзі:
— Дай нам рады, Вяль,
Ратуй, пагібель нас чакае!..
Гукае кавалёў стары каваль,
З усіх куткоў зямлі збірае.

Вязуць руду на плаўку людзі зноў.
Ссякаюць пушчы,
Паляць на вугалле.
Куе магутны Вяль,

І сотні кавалёў
У сотні малатоў куюць ля Вяля.
Плывуць патокі вогненнай руды,
І пахне дымам ад гарачай сталі,

І раставаць маўклівыя ільды
На рэках і азёрах сталі.

Куе магутны Вяль, і сотні кавалёў
Куюць з ім поруч, не сціхае праца.
І на праталінах сярод снягоў
Там-сям пралескі сталі пракідацца.

Кавалі безупынку кавалі,
Грымелі доўга цяжкія кувалды.
Нарэшце сонейка за край зямлі
Скацілася з высокага кавадла.

І досвітку чаканага святло
Прабілася праз цемру і зазззяла.
І сонца новае над светам узышло
І вышай, вышай узнімацца стала.

І Вяля кліча радасны народ,
І выйшаў з кузні Вяль, і азірнуўся,
І з твару сцёр рукой мазольнай пот,
І неяк па-дзіцячаму ўсміхнуўся.

Так сонца нам скавалі кавалі,
Якое ні імгла, ні сцюжа
Больш пагасіць у небе не змаглі.
Прыйшла вясна,

Цвіце ў садочку ружа,
Шумяць жыты,
Плюскоча ў рэчцы хваля,
І людзі славяць добрым словам Вяля...
Я часта думаю, што слаўны Вяль
Ёсць сам народ — цудоўнейшы каваль.

То возьме сонца новае скуе,
То радасць шчырую,
То добрую надзею...
Куе магутны Вяль, куе, куе.
Святло над горнамі высокае ўстае,
Нязгасна над усёй зямлёй ірдзее.

*1952 г.*



## ГУДОК

Дзе старэнькая пільня калісь ля ракі
На высокім крутым узбярэжжы стаяла,
Там улетку любілі гуляць хлапчукі,
Ваганеткі па рэйках ганялі, бывала.

Але шчасцем для іх найвялікшым было
Завітаць у кацельную лесазавода.
Як сярдзітае полымя ў топцы гуло,
Доўга слухаць маглі хлапчукі з асалодай.

А пасля станавіліся ціха ў куток,
На пярэстыя ходзікі вочы касілі,
Качагара дзяжурнага слёзна прасілі:
— ...Ну дазвольце ж нам, дзядзька,
Дадзім мы гудок.

Хлапчаняты былі шчаслівейшымі ў свеце,
Калі браліся моцна рукамі за венціль.

І клубілася пара кашлатым клубком
Над кацельняю, і басавіты і зычны

Узнімаўся гудок над глухім гарадком
Акурат у дванаццаць, сапраўдны, фабрычны.

І казаў ім дзяжурны з усмешкай на твары:
— Качагары з вас будуць, дальбог, качагары.

*1952 г.*



## ХЛОПЧЫК ЗАЙЗДРОСЦІЦЬ ЧАЙЦЫ

Сплывае світальная ціша
З надрэчнай высокай страмніны.
Прачнулася ліпа, калыша
Над домікам сонна галіны.

Той домік сам-насам з прасторам,
Які не акінуць і вокам,
І чайка крылом белапёрым
Пралётам кранаецца вокан,

Разносячы ліпеньскі ранак
Усім жыхарам узбярэжжа...
Хлапчук выбягае на ганак,
Бярэ ён вудзільны з падстрэшша.

Цікаўнасцю бліскаюць вочы,
І далеч ён так азірае,
Нібыта даведацца хоча:
— А што там за тым небакраем?

Там недзе ж і далі марскія,
Там недзе ж і горныя стромы.

Эх, крылы б яму, ды такія,
Каб свет абляцець невядомы.

І чайцы пралётнай зайздросціць
У гэту хвіліну ён шчыра,
Бо тут яна летняя госця
І скора ляцець ёй у вырай.

І хутка збягае ён з ганку
І проставалосы і босы
Насустрач пагоднаму ранку
Бяжыць паўз дняпроўскія плёсы.

*1952 г.*



## ВЫБАР ДАРОГІ

Вясенні край
Перад табою лёг,
Ты выбірай
Найлепшую з дарог.

Адну навек
Любімую бяры,
Шумяць ля рэк
Палескія бары.

А там Урал
Хавае скарбы руд,
Тапаз, апал,
Цудоўны ізумруд.

Якую браць?
Паглядам даль акінь.
Ты можаш стаць
І парусам марскім.

І над Дняпром
Садамі зашумець,

Сагрэць святлом
Дратоў халодных медзь.

Ты можаш стаць
Вяршыняй новых гор,
Імя аддаць
Адной з нязнаных зор,

Што ноч і дзень
Чакае ўсё, калі
Яе прамень
Убачыш ты з зямлі.

Цясняцца сны
І думы ўперабой.
Прастор вясны
Ляжыць перад табой.

*1952 г.*



## ВЫПУСКНЫ ВЕЧАР

Вечар свой выпускны ад змяркання
Святкавалі яны ледзьве не да зары.
Напаследак рашылі —
На развітанне
Усім класам світанне сустрэць на Дняпры.

Дваццаць лодак пайшло чарадой ад прычала.
Паплыла маладосць на прастор, паплыла.
Ёй вялікае сонца насустрач устала,
А імклівая ластаўка ўзмахам крыла,
Летучы па-над плёсам, яе прывітала.
Тут, як глянеш, такое раздолле навокал:
След вірлівы вясла за кармою бяжыць,
І дарогай у далі шырокай-шырокай
Паўнаводны Дняпро перад шумным юнацтвам
ляжыць.

*1952 г.*



## РАВЕСНІК МОРА

Ля Дона, у дальніх краях,
Дзе стэп быў засмяглы учора,
Па нашаму слову
На нашых вачах
Радзілася сіняе мора.

Адною парою ты з ім
Радзіўся, харошаю, весняй,
Хлапчук шэравокі, маленькі зусім,
Цымлянскага мора равеснік.

Ты чуеш, яно за акном
Высокім прыбоем г люскоча,
Вунь першая чайка ўзмахнула крылом,
Як белай хусцінкай дзявочай.

А вунь, паглядзі, карабель
Яно так свабодна калыша:
Шырэй што ні дзень наша мора, глыбей
І хвалі ўздымае ўсё вышай.

Расці ж, хлапчанё, і хутчэй
Разгортвай арлiныя крылы.
Стварaць табе новыя моры яшчэ,
Шырэйшыя моры, мой мілы.

Адкрыты твой шлях, і няма
На ім ні пакуты, ні гора:
Мы дзень нараджэння твайго недарма
Раджэннем адзначылі мора.

*1952 г.*



## ДЗЯЎЧЫНА І КАВАЛЬ

Раз жняяркай жыта жала
Дзяўчыначка малада.
Раптам штось машына стала.
Ах, бяда, бяда...

Добра — кузня недалёка.
— Кавалёк, дай рады мне.
Ён куе, а карым вокам
Паглядае на яе.

Хутка верасень мінае.
Лістапад мінуў. Зіма.
Ён дзяўчыну ўспамінае,
А дзяўчыны ўсё няма...

Раптам звонкі, як званочак,
Раздаецца галасок:
— Памажы мне, кавалёчак,
Дай мне рады, кавалёк.

Я дадому так спяшала,
Ды на санках не язда:

Пад гарой падрэз зламала.
Ах, бяда, бяда!

Пад рукою, пад умелай
Паслухмяна гнецца сталь,
І з усмешкаю нясмелай
Кажа дзеўчыне каваль:

— Не забудзь, дзяўчына-краска,
Гэту сцежку к кавалю,
Калі трэба, калі ласка,
Ўсё скую, усё зраблю.

— А скаваць ты шчасце можаш?
Будзеш лепшым кавалём.
— Што ж, калі ты дапаможаш,
То як след яго скуём.

*1952 г.*



*   *   *

Быў я ў агні,
І пад агнём,
І па кані,
І пад канём.
Ляцеў да хмар,
Бываў на дне.
І смерць у твар
Глядзела мне.
Ў баях згубіў
Я шмат сяброў,
Ды не забыў
Юнацкіх сноў
І маладых
Высокіх дум.
Я чую іх,
Як весні шум
Гаёў і рэк...
Яны ва мне
Наяве, ў сне,
Навек, навек!

*1956 г.*



# РАЗМОВА З СЭРЦАМ

Бухенвальд — гэта букавы лес,
Мірны шолах лісця чуйным вухам лаві.
Ну і праўда,
Там лес
Узвышаецца спрэс,
А ў тым лесе
Пяюць салаўі.
Толькі слухаць іх будзеш дарма:
Салаўі аб гяшчотнай спяваюць любві,
А там нават мясцінкі няма,
Дзе не ўпала б сляза
Альбо кропля крыві.
Бухенвальд — гэта чумны струп.
Вунь, за брамай жалезнай, відаць
Крэматорыя дах,
Жэрлы труб.
Больш яны не дымяць,
Дзе палілі фашысты людзей,
Там сягоння музей.
Сэрца вязня там ёсць адно,
Навылёт прабіта яно.

Тое сэрца прабілі нажы
І свінец эсэсаўскіх куль...
Я стаю перад ім:
— Адкажы,
Сэрца, мне,
Ты чыё?
Ты адкуль?
Мо ты білася, сэрца, ў грудзях
Камуніста старога,
Які
Поплеч з Тэльманам біўся ў баях?
Не палохалі кулі яго
І штыкі.
Можа быць, задуменны юнак
У табе, сэрца, нёс столькі мар?
Хто ён?
Серб,
Ці француз,
Ці паляк?
Трапяткая душа
Ці суровы змагар?
Можа, сэрца, ты дзеўчыны той,
Што калісьці любіла мяне
І стаяла са мной
Пад вярбой
У дняпроўскай маёй старане?..
Сэрца,
Поўнае колісь надзей,
Ты — маё.
Не загінуў я, не.
Бо мільёны і сэрцаў яшчэ
І грудзей
Ёсць на свеце ў мяне.
Чуеш, сэрца маё,
Вунь, на захадзе, там
Недабітак-забойца фашысцкі прымервае бот

Бухенвальды збіраецца нам
Будаваць ён праз некалькі год.
Чуеш, сэрца маё,
Не дапусцім мы, не.
Час другі,
Свет другі.
Не пачаць ім забойства ізноў.
Хай у гэтай лясной старане
Салаўі пяюць пра любоў.

*1956 г.*



* * *

— Ластаўка,
Адкуль ты прыляцела?
— З Ніла.
— Як ты на чужыне,
Раскажы, жыла?
— Там прывольна, цёпла,
Многа там святла,
Толькі поўнач хмарную
Там я часта сніла.

*1956 г.*



## ГОЛАС ПЕРШАГА СПАДАРОЖНІКА

Я, малы спадарожнік вялікай Зямлі,
Вам з нябёсаў кажу, недаступных учора.
Пада мной кантыненты зямныя прайшлі,
Акіянаў зямных прамільгнула прастора.
Вольнай думкі і вольнай краіны я сын,
Дзе ў Кастрычніку людзі пакончылі з горам,
І таму даляцеў я да гэткіх вышынь
І наблізіўся к дальнім планетам і зорам.
О Айчына мая! Колькі марыла ты,
Каб сыны твае гэтай дабіліся мэты.
Ля мяне не блакіт прамяністы, густы,
А ўжо чорная бездань, дзе кружацца светы.
Я маланкаю ўпасці б на ворагаў мог,
Мог бы іх спапяліць у імгненне дазвання.
Толькі я нарадзіўся для мірных дарог
І высокае, мірнае маю прызванне.
Недарэмна я ўзняўся ў сцюдзёную сінь,
Недарэмна над маці-Зямлёй пралятаю:
Я разведчык нязнаных сусветных глыбінь,
Я для зорных Калумбаў шляхі пракладаю.

Пачынаецца новы нябачаны век:
Прыйдзе мір на зялёную нашу планету.
Пераможцам да зор узляціць чалавек —
Ўладаром і Зямлі і прастораў Сусвету.

*1957 г.*



## У НОВЫМ МОРЫ

Вунь мора новае відно,
Да Сталінграда горнецца.
Вадою волжскаю яно,
Як сэрца песняй, поўніцца.

Ўзыходзіць сонейка над ім
Уранні, зырка ззяючы,
У гэтым моры маладым
Праменнямі гуляючы.

А ўночы ў моры ўвесь Сусвет
З нязведанымі далямі,
І спутніка лятучы след
Відаць тады між хвалямі.

*1958 г.*



## ЛЫЖНІК

Ялінку снегам замяло,
Панікла галавой ялінка
На ўзлессі пушчы векавой,
Нібыта ў горы сірацінка.

Спыніўся лыжнік ля яе.
З галля ён скінуў снег бялюткі.
Паніклая ялінка стан
З палёгкай выпрастала гнуткі.

Відаць, быў добры чалавек
Той лыжнік.
Веру я такому:
Хацеў ён, каб лягчэй было
І дрэўцу гэтаму малому.

*1958 г.*



## НАПЯРЭДАДНІ

За Петраградам,
Ля затокі Фінскай,
На поплаве глухім, дзе ні душы,
Над будучым, як маці над калыскай,
Ільіч схіляўся ў ціхім шалашы.

Ляжаў ён стомлены на свежым сене.
Мінала ноч, а ўсё заснуць не мог.
Адзіны верны шлях да вызвалення
Ён бачыў паміж тысячы дарог.

Зарніцы ў цемры ўспыхвалі касыя.
Замоўк дзяргач.
Такая цішыня,
Нібы на міг прыціхла ўся Расія
У чаканні заўтрашняга дня.

*1959 г.*



## РОДНАЙ ПАРТЫІ

Партыя, твая дарога
Прывяла нас к волі, к долі.
Там, дзе ты, там — перамога,
Не адступім там ніколі.

Па загаду сэрцаў сталі
Мы тваімі радавымі.
Цераз шквал свінца і сталі,
Не схіліўшыся, прайшлі мы.

Мы ўзаралі стэп цалінны,
Зрушылі, дзе трэба, горы...
Склалі прадзеды быліны
Пра асілка Светагора.

Ён хацеў зямную цягу
Колісь марна перадужаць.
Сёння ў незямным прасцягу
Пасланцы зямныя кружаць.

Далі ім цяпер адкрыты,
Мару спраўдзілі сваю мы.
Партыя! З табою зліты
Нашы справы, нашы думы.

Выведзі ж Зямлю-планету
На арбіту камунізма,
Каб старому, злому свету
Справілі скарэй мы трызну.

Каб вялікай грамадою
Пад чырвонай зоркай згоды
Працавітаю сям'ёю
Жылі вечна ўсе народы.

*1959 г.*



## АНГАРСКАЯ КАЗКА

Ішоў праз тайгу
У сваю старану
Асілак Пурсей веснавою парой.
Стаміўся і думае:
«Дай прыкархну
На сонейку над Ангарой».

Пад гоман дрымотнай тайгі заснуў
Магутны Пурсей непрабуднейшым сном.
Праспаў ён усю лясную вясну,
Не мог разбудзіць яго гром.

Ці дрэмле Сібір пад дахою снягоў,
Ці ў чырвань брусніц прыбярэцца яна,
Спіць як забіты Пурсей без сноў
Каторы год узбоч Падуна.

І колькі разоў чароды гусей
Дамоў прылятаді з паўднёвых старон.
Акамянеў абамшэлы Пурсей,
Надрэчным уцёсам зрабіўся ён.

І раптам прачнуўся Пурсей-уцёс:
Маторы гудуць, грукоча метал.
— А дзе тут знаёмы ангарскі плёс? —
Асілак сівы прыўстаў.

Плаціна вялізная побач.
— Хто змог
Суняць Ангару? — шапнуў велікан.—
Адкуль тут мора шуміць каля ног,
Мо насланнё гэта, зман?

Куды ж неразлучны таварыш уцёк,
Падун мой аддаены?
Ён не пускаў
Нікога сюды, надзейна паток
Загарадзіўшы радамі скал.

Няўжо ёсць такі асілак-хітрун
Мацнейшы, чым я, чым мой Падун?

Няма Падуна.
І Брацк устае,
Рассунуўшы нетры плячом маладым.
І дзеўчына ў ватніку песню пяе
Над новым прасторам марскім.

І скеміць стары велікан не паспеў:
Ці гэта праўда,
Ці мо толькі сон?
Глыбока ўздыхнуўшы, зноў скамянеў
Ад здзіва вялікага ён.

Так і дагэтуль высіцца там.
Хто не паверыў,
Можа ўпэўніцца сам.

*1961 г.*



## УСЛЕД ЗА СОНЦАМ

Паблукаў я ля Байкала,
Доўга ў слаўным Брацку жыў.
Восень ранняя настала,
Я, прызнацца, затужыў.

Край прыгожы, край багаты:
І тайга і Ангара.
Толькі мне цяпер дахаты
Ўслед за сонейкам пара.

Сонца ўсходзіць за Байкалам,
А заходзіць за Дняпром,
Там, дзе мой прыстанак сталы,
Дзе стаіць бацькоўскі дом,

Дзе за цёмным борам тае
Рэха юных дзён маіх,
Дзе мяне чакае тая,
Што мілейшая за ўсіх.

*1961 г.*



## КАЛЯ БУХТЫ «ЗАЛАТЫ РОГ»

Часта-часта ў маладосці ранняй
Даль марская мроілася мне.
Марыў аб далёкім акіяне
Я ў маёй дняпроўскай старане.

З песняй ідучы па белым свеце,
Мары я юнацкія бярог...
Чую: трубіць акіянскі вецер
Ў залаты ўладзівастоцкі рог.

Слухаць люба голас ветру:
Штосьці
Чуецца знаёмае здавён.
Трубіць мой трубач аб маладосці.
Ці не пра маю заводзіць ён?

Дык трубі зычней над бухтай сіняй.
Мара веснавая, ты — не зман.
Веру я: мяне яшчэ, як сына,
І цяпер палюбіць акіян.

*1961 г.*



## У ЗНАЁМЫМ ГАРАДКУ

У гарадок заехаў я,
Дзе калісь жыў.
Зайшоў к таварышу,
З якім вучыўся ў школе
І ў дні юнацкія дружыў.
Сады цвілі якраз у наваколлі.

Нібы падлеткі, ўзлезлі мы на дах,
На сонейку ля коміна прыселі.
Як хараша,
Вакол усё ў садах.
Свет кружыцца на белай каруселі.

Цвіцення хмель мне кружыць галаву,
У гэту даль так хочацца ўглядацца:
Я зноў пад белым парусам плыву
Па моры веснавым майго юнацтва.

*1963 г.*



## ЧАМУ ШУМІЦЬ ЦІШЫНЯ?

Пад Адэсаю мы катакомбамі крочым.
Цішыня, цішыня,
Морак вечнае ночы.

Праз ракушачнік шчыльны прабіты хады.
Значыць, хвалі марскія тут калісь сінелі.
Можа гэта застылі яны праз гады
І навечна акамянелі?

Адгуло тое мора даўно,
І трывожыць мяне не яно.

Тут учора стаялі насмерць партызаны,
Бы ў каменнай халоднай труне,
Тут у змроку бязгучным яны пахаваны.
Вунь пры свечцы імёны відаць на сцяне.

Ушануем як трэба маўчаннем герояў.
Свечкі гасім.
Ні гуку.
Ні пробліску дня...
Толькі,—

Вось насланнё, ледзьве ўлоўная мроя,—
Як далёкае мора, шуміць цішыня.

Гэта камень-ракушачнік шэпча аб моры.
Гэта памяць аб хвалях дасюль ён данёс.
Гэта мора калішняе ціха гаворыць
Пра бурлівы свой лёс.

І пра нас, і пра верных таварышаў нашых,
Пра высокае сонца высокага дня,
Што гарыць над святымі магіламі паўшых,
Знаю — будзе, як мора, шумець цішыня.

*1965 г.*



# ІВАНКА

*(Палескае паданне.)*

Чуеш — шуміць лес-дуброва?
Чуеш — звініць падковамі дарога?
Гэта бягуць коні вараныя.
Гэта едуць удальцы маладыя.
А наперадзе едзе Іванка.
Конь у Іванкі самы варанейшы,
А сам Іванка за ўсіх смялейшы.
Толькі ў Іванкі бяда-неспадзяванка:
Князь-валадар забраў яго нявесту Алену
Сабе на пацеху за каменныя сцены.
Едзе Іванка з вернымі сябрамі
Да князева замка, да жалезнай брамы.
— Разаб'ём мы каменныя сцены,—
Кажа Іванка,—
Мячамі
Ды адамкнём камору, дзе схавалі Алену,
Ключамі.
Раптам каркнуў чорны груган за палянкай:
— Ці не страшна ехаць на бітву, Іванка?
Вочанькі вып'ю твае,
калі будзеш забіты валяцца.

— А чаго ж бо мне, чорны гругане, баяцца?
Конь пада мною, бог пада мною,
А хлопцы-малойцы едуць за мною.

. . . . . . . . . .

Вараны конь да стайні бяжыць,
А смелы Іванка забіты ляжыць.
Праз яго рэбрачкі трава парасла,
Праз яго вочанькі
Вада працякла,
Скрозь яго горлечка
Змяя прапаўзла.
Явар сумна ў нагах шуміць,
Чорны груган ў галавах сядзіць,
Але песня пра Іванку высока ляціць.

*1965 г.*





Я так люблю перабіраць грыбы,
Вярнуўшыся ў нядзелю з лесу.
Іх высыпаю з кошыка на стол,
І вось яны ляжаць пярэстай горкай.
Да іхніх капялюшыкаў лісты
Асеннія прыліплі і ігліца.
І водар баравы плыве ад іх.
Са мною поруч сын, дачка і жонка.

Утульна так у куханьцы малой.
Набраў сягоння я грыбоў багата.
Вось хітрыя лісічкі, што ў густых
Імхах хаваюцца з такім умельствам.
А вось і падасінавік. Які
Ён здаравяк, крамяны і прыгожы.
А вунь славуты цар усіх грыбоў —
Яго вялікасць мудры баравік.

Нажы паблісквают. Гучыць гамонка.
У твары дыхае нам смольны бор.
А за акном шуміць вялізны горад,
І гарадская ноч на нас глядзіць.

Пара мне спаць. Павольна засынаю.
Усё ў вачах грыбы і верасы,
І мох кілімам сцелецца наўкола...
Мне сніцца сон, што я яшчэ хлапчук,
Выходжу з кошыкам грыбоў з гушчару.

Перада мною поле. Шлях па ім
Ідзе ў прастор — туды, дзе небакрай.
І я стаю на ўзлессі і ў сябе
Наіўнымі дзіцячымі вачамі
Нязнаную ўбіраю далячынь.

*1965 г.*



*   *   *

Не ціхне рэха змоўклых галасоў.
Мінулае заўжды для нас адкрыта.
Я чую пошум колішніх лясоў,
Калі бяру кавалак антрацыту.

Я зніклых акіянаў сумны ўздых
У старажытнай ракавіне чую.
А захачу — і прашчураў маіх
Убачу я і з імі заначую.

Засне ў пячоры ля агню радня,
Я ж слухаць буду пад завейны лямант,
Як тысячы гадоў назад да дня
Трубіў у роспачы апошні мамант...

А як, хаця б на сотню год якіх,
Уперад мне праз далячынь прарвацца,
Каб час за мной ніяк не мог угнацца,
І да нашчадкаў завітаць сваіх
Хай на мінутку,
Хай на міг?

*1966 г.*



## ЧАЛАВЕК З БУДУЧЫНІ

Яшчэ дагэтуль высіцца над Волгай дом,
Дзе ўбачыў Ленін белы свет упершыню.
Ды як далёка ўжо сягоння тыя дні,
Калі ён з волжскіх берагоў удалячынь
Юнацкімі вачамі пазіраў.

Уперад, у Наступнае, плывём, плывём
На хвалях дыбістых няўпынлівых гадоў,
І векапомны міг, калі з браневіка
Руку прасцёр прызыўна над Расіяй ён,
Няўхільна аддаляецца ад нас.

Як мала засталося ўжо старых байцоў,
Якія сталі ў строй яшчэ пры Ільічы,
А рысы Леніна усё ясней, ярчэй
У ззянні нашай неадольнай праваты
З гадамі выступаюць, з кожным днём,
Нібыта з будучыні ён на нас глядзіць,
Нібыта з будучыні ён да нас прыйшоў.

*1966 г.*



## ПАД АСЕННІ ДОЖДЖ

Імжыць імжа,
Імжыць імжа.
— Нябёсы плачуць, нехта іх крыўдзіць?
— Не, гэта плача мая душа
Па тысячах нашых Лідзіц.

Боль па загубленых не заглушыць.
Удзень і ў пару начную
Трывожна іхні попел шуршыць.
Я чую гэта.
Чую.

Ён што ні год — то яшчэ гарачэй,
Ён сэрца пячэ, гэты попел...
А дождж асенні, як слёзы з вачэй,—
Рыданне ледзь чутнае кропель.

*1966 г.*



## ДА КОЖНАГА СЭРЦА

Крочыць, крочыць Кастрычнік доўгім шляхам
гадоў.
Рэвалюцыя ўсё прадаўжаецца і прадаўжаецца:
Несупынна ў мільёны і сэрцаў і душ
паглыбляецца,
Пранікаючы ў плоць і кроў.
Белы свет немалы,
І шляхі не засцелены ружамі,
Ды яе не запыняць,
Ёй ісці па жыцці,
Бо да кожнага сэрца людскога,
Сумленнага, мужнага,
Трэба ёй, неадольнай, дайсці.

*1967 г.*



## КІБАЛЬЧЫЧ

Аб гэтым чалавеку часта я
І думаю і да яго ў турму
У думках прабіраюся, назад
У век, якi даўным-даўно мінуў.
На пальчыках у камеру тайком
Прашмыгваю і з зайздрасцю сачу
За мужным вязнем, затаіўшы дух.
Гадзіннік цікае, ідзе, ідзе.
Пяро Кібальчыча рыпіць, рыпіць.
Ужо астатняя мінае ноч.
Спяшае смертнік: трэба завяршыць
Сваю нарэшце справу. Хоча ён
Пакінуць людзям падарунак свой.
Не чуе вязень, як звіняць замкі,
Грымяць завалы. Нат не чуе ён,
Як боты катаў грукаюць. Рыпіць
Пяро Кібальчыча, рыпіць, рыпіць,
І вабяць зоры смертніка, і ўзлёт
Да іх ужо яскрава бачыць ён...
Туды, дзе ўзняўся эшафот, іду
Услед за вязнем невідзімкай я
І вызваліць яго хачу, ды ўсё

Праз частакол бязлітасных штыкоў
Ніяк, сябры, прабіцца не магу...
Прыходзіць хмуры пецярбургскі дзень,
А рота імператарскіх салдат,
Загнаных і пакорлівых, яшчэ
Узад і ўперад маршыруе там,
Дзе толькі-толькі прыняла зямля
Кібальчыча, дзе лёг сыры пясок
На вочы пранікнёныя, што свет
Паглядам абдымалі маладым.
Магілу можна зраўнаваць з зямлёй.
Але ці можна зоры затаптаць?
Яны ў вышынях зіхацяць. Яны —
У водах акіянаў, рэк, азёр,
Яны ў крынічках ззяюць і ў вачах
Маёй любімай свецяцца заўжды
І ў мары кожнай бліскаюць маёй...

*1964—1968 гг.*



## ЦІ БАЧЫЛІ ВЫ?

Раскаваным плёскатам рэчка вітае вясну,
А яблыня радасна хусткай махае ёй белай.
Ці бачылі вы, як рыхтуе да зімняга сну
Пасцелю насенню садоваму майстар умелы?

Перш-наперш жвірок залаты спакваля прапячэ
Садоўнік агнём ачышчальным, а потым,
Каб стаўся і мяккім прагрэты жвірок і
вільготным,
Вадою крынічнай яго асвяжыць ён яшчэ.

Зярняткам пад гэтаю коўдрай пясчанаю
вохкай
Сны добрыя сняцца,
Там дыхаць заўсёды ім лёгка.

І так закапае садоўнік на схіле паўднёвым
пасля
Ў гарлачыках іх, каб не змыла вада веснавая,
Каб з'есці маленечкіх мыш не змагла палявая...
Засне з імі разам пад снегам матуля-зямля.

Прачнецца яна пад пяшчотным і шчодрым
праменнем,
У грудзі ўдыхнуўшы глыбока вясны цеплыню,
І парасткі-яблынькі глянуць на свет са
здзіўленнем,
Нібы немаўляткі, што бачаць яго ўпершыню.

*1948—1968 гг.*



## НА ДОСВІТКУ

Небакрай журавінее
Ад подыху блізкага ранку.
Рака-паляшучка
Чароўніца і аерыцца.
То ў ёй бліснe зорка-заранка,
То рыбінка-залатаперыца.
Досвітак — спраўны майстар,
Колькі ў цябе адценняў, водсветаў.
На палотны свае
Ты фарбу кладзеш адменную.
Ты — вечны юнак, шчодры досвітак,
Палымянасць нясеш нязменную.
Пэўна, таму гадзіна світальная
Самая-самая
Жаданая сэрцу майму.
Люблю я да болю яе.
У гэты час хоча душа мая
Кружыць пушынкай таполевай
Над берагамі і плёсамі,
Глядзець, як нявеста-Зямля
Умываецца росамі.

*1969 г.*



## ВЯЛІКІ СПЯВАК

Чамусьці я не заўважаў раней
Тваю прыгожасць, восеньскі палетак.
Раздолле прадзімовае, рупей.
Ззяй колерам вясновым папаследак.

І так рунеюць гоні ў бляску дня,
Што мне здаецца — больш не будзе
снежня.
Але мяне маркоціць цішыня,
Якая валадарыць тут бязмежна.

Дзе слынны жаваранак?
Эх, калі б
Над рунню ды ўзляцеў спявак
вялікі!
А без яго зялёныя палі
Нагадваюць вяселле без музыкі.

*1972 г.*



# ТАВАРЫШ САША

*(Паэма.)*

*А. І. Самуйліку.*

## I

Кастрычніка свята, як трэба яму,
Паны святкаваць не давалі ніколі:
То мусіў хавацца ў глыбокім падполлі,
То зноў ён надоўга трапляў у турму,
Заўжды ў казематы за дзверы стальныя
Таварыша Сашу кідалі яны.
Лічы ў адзіночцы гады маладыя,
Дзе ложак прыкут да халоднай сцяны.
Але як надыдзе пара святкавання,
Дык стукам сусед перадасць прывітанне...

Каб вольна як след між дзяцей, між сяброў
Правесці ўрачыстасць, у жонкі, у маці,
У вёсачцы роднай, у бацькавай хаце,
Тады толькі снілася Сашу.
**Дамоў**

Уночы заскочыць ён мог на хвіліну,
Гады, як гавораць у нас, у рады.
І, дзверы тайком адчыняючы сыну,
Старая праз слёзы казала тады:
— Паспаў бы ты ўсмак хоць адзіную ночку,
За праўду пакутуеш, любы сыночку,
І ў матчыну хату не можаш зайсці.

Душа, адлятаючы з цела ў трывозе,
І то азірнецца на родным парозе,
А ты без аглядкі павінен ісці...
І так год за годам мінае ў змаганні,
І колькі загінула верных сяброў,
І маці без сына сівее ў чаканні,
І жонка без мужа гадуе сыноў.
Даўно прамінулі гады маладосці,
А ўсё не прагнаны паны-ягамосці.

Стаў Саша здароўем прыкметна слабець:
Астрог з яго высмактаў, выціснуў сокі,
У вязня і грудзі запалі, і шчокі,
Румянец пачаў на іх хворы гарэць.
І ў трыццаць дзевятым, калі вызвалялі
Мы ў верасні нашых сясцёр і братоў
Ляжаў ён у цёмным турэмным шпіталі,
Здавалася,— больш не падніменца зноў.
Таварыша мы ратавалі як трэба:
Далі яму сонца паўднёвага неба.

Пазбавіўся ён ад турэмных сухот
Ля цёплага мора, у сонечным Крыме.
І вось, ачунялы, ў сябе на Радзіме,
У родных Барках, апынуўся праз год.
Ён, тройчы забіты і тройчы памершы,
Матулю і жонку сустрэў, і сыноў.
А год пачынаўся якраз сорак першы,

Напэўна, ён самы суровы з гадоў,
З усіх, што прайшлі над краінаю нашай.
Узяўся за працу з баркоўцамі Саша.

Калгас яго выбраў сваім старшынёй.
Пасеяў ён жыта, ды жаць не прыйшлося:
Фашысцкія танкі стапталі калоссе,
З зямлёй яны жыта змяшалі, з крывёй...
І выпала першы ваенны Кастрычнік
У лесе яму сустракаць ля кастра.
Сядзеў каля Сашы Андрэй-пагранічнік,
Ды бульбу ім Валя пякла, медсястра.
Ды некалькі хлопцаў яшчэ пад сасною
Цыгаркі курылі і чысцілі зброю.

У лесе пазналі нямала нягод.
Ізноў надыходзіць Кастрычнік.
Са жменькі
Байцоў нарадзіўся атрад,
Хай маленькі,
Але пра таварыша Сашу народ
Пачуў. І ад Прыпяці, Ясельды, Шчары,
Ад Пінскіх балот да Пружан, да Ружан
Гамоняць лясы, палявыя абшары
З надзеяй пра смелых хлапцоў-партызан.
І восеньскім вечарам Саша мяркуе,
Як свята Кастрычніка ён адсвяткуе.

Багата зрабіць дзеля свята ён рад,
Ды покуль байцоў у яго небагата
І зброі ў атрадзе яшчэ малавата.
Расце, толькі ў сілу ўваходзіць атрад...
І Саша, накінуўшы курточку, выйшаў
З свайго будана, каб праверыць пасты.
Мастак гэты вечар: на небе ён вышыў
З сузор'яў дзівосных узор залаты,

Гарыць ён на сінім надвоблачным полі,
І Саша любуецца ім мімаволі.

Там бліскае з нетраў начных Вісажар,
Сітцо там вісіць. Так, нябеснае сіта,
Яно не рукамі і звіта і збіта.
З праменняў сатканы бяздонны абшар,
Пасыпан сусветамі ён, як пясочкам.
І дзе, брат, пачаткі яго, дзе канцы,
Уцяміць нялёгка...
А вунь над дубочкам,
Глядзіць камандзір, заблішчалі Касцы,
Сузор'е знаёмае добра з маленства.
І праўда, вялікае ёсць падабенства:

Як быццам на лузе касцы,
Наўскасяк
На небе пасталі вялікія зоры,
Паблісквающь ярка ў бязмежным прасторы.
І Сашу чамусь прыгадалася, як
Ён ехаў калісь разам з бацькам на возе,
Дамоў з паплаўца везлі сена яны,
І вечар заспеў іх ліпнёвы ў дарозе,
І вось ужо зоры ў вышынях відны.
Драбнюткага зерня бліскучыя жменькі,
Нібыта іх нехта насеяў з сявенькі.

Воз ціха па ціхім плыве паплаўцы.
Спакой. Адзвінелі апошнія косы.
І тата маўчыць.
Нечакана ў нябёсы
Ён тыц пугаўём:
— Сашка, бачыш — Касцы!
Касцы ўжо ўзыходзілі па небасхіле:
Напэўна, лугі ўсе яны на зямлі
Да самага краю яе пакасілі
І вышай, шукаючы новых, пайшлі.

І толькі іх піпак відаць аганёчкі
З зялёнай зямлі нам у цемрадзі ночкі.

І раптам аднекуль з маленства, здалёк
Павеяла нечым харошым, лагодным,
І гэтакім мірным, і гэтакім родным,
Як ноччу, у змроку густым, аганёк,
Што ўбачыў вандроўнік з дарогі ў той хаце,
Дзе гэтулькі зім не бываў ён і лет,
У хаце той самай, дзе рос ён, дзе маці
Яго нарадзіла калісьці на свет.
Ярчэй разгараюцца зоры наверсе,
Ды Саша ідзе ўжо далей на прылессе.

## II

Ля Прыпяці часта грудкі-астраўкі
Трапляюцца ці на прасторы балотнай,
Падчас недаступнай, зусім непраходнай,
Альбо ў забалочанай пойме ракі.
Не кожны на чоўне туды прабярэцца.
А дзе нават чоўну праезду няма,
Там зверу і птаху прывольна жывецца,
Бо толькі калі ўжо надыдзе зіма
І багна замерзне, тады заглядае
На гэткі грудок паляўнічы, бывае.

Знайшлі партызаны на ціхім грудку
Мясціну сабе неблагую для базы.
Хавалі там зброю і боепрыпасы.
Шпіталь збудавалі яны ў сасняку.
Там сем'і жылі партызанскія з лета,
І Сашавы дзеці і жонка жыла.
На рэдкасць надзейнае сховішча гэта.
Туды патаемная сцежка вяла.
Не ведалі добра й тутэйшыя людзі,
Як можна прабрацца ў лясок, што на грудзе.

Да базы спяшаецца сёння атрад:
Пара рыхтавацца да свята, да бою.
І толу з сабой, і патронаў з сабою
Узяць, а таксама паболей гранат.
Вось робяць нарэшце прывал партызаны
Світальнай парой у знаёмым ляску.
З дзесяткам таварышаў выпрабаваных
Сцяжынкаю Саша ідзе к астраўку.
Андрэй-пагранічнік наперадзе крочыць,
За шолахам кожным уважліва сочыць.

Даўнютка ўжо Саша не бачыў малых,
Даўнютка ўжо чуў іхні смех і гаворку.
Ён неяк, урваўшы хвіліну, на золку
Забег да сыноў: зажурыўся без іх.
Ды толькі апошняй сустрэчай кароткай
Ён сэрцу не здолеў свайму дагадзіць:
Сыны ў будане спалі гэтак салодка,
Што бацьку шкада іх было пабудзіць,
Іх сон парушаць бесклапотны, глыбокі.
Ён пацалаваў іх у цёплыя шчокі,

Паслухаў, як дыхаюць роўна яны.
Пабыў каля ложка дзіцячага трошкі,
Паправіў ён коўдру, накінуў на ножкі
І выйшаў — хай спяць бесклапотна сыны...
Ізноў над балотам скупое дасвецце.
Сасоннік відneeцца ўжо з-за кустоў.
Не церпіцца Сашу — а як жа там дзеці?
Хутчэй яму хочацца ўбачыць сыноў.
Іх так не хацелася ўбачыць ніколі.
А крочаць байцы па сцяжынцы паволі.

Па купінах зыбкіх нялёгка ісці.
Віецца, вядзе іх у нетры сцяжына.

То ўстане над ёю старая альшына,
То знікне дарожка ў засохлым трысці.
А часам убачыш «ваконца» пад бокам —
Трава па краях, пасяродцы вада.
Здаецца, што чорным няветлівым вокам
Глядзіць падарожным у вочы бяда.
Панурыя хмары плывуць гэтак нізка.
Да вострава блізка, зусім ужо блізка.

Бацькоўскага сэрца ўзмацняецца стук...
Чаго ж там на бераг Андрэй выбягае?
Чаго ён, трывожны, рукою махае?
— Таварыш,— ён кліча,— таварыш Пінчук...
Па прозвішчу Сашу не звалі ніколі.
Застаўся для ўсіх ён сяброў і байцоў
Таварышам Сашам, бо так у падполлі
Яго называлі нямала гадоў.
І вухам старога змаганца прывычным
Трывогу ў звароце ўлавіў ён нязвычным.

Калі ж да Андрэя дайшоў, па вачах
Ягоных пазнаў ён, без слова адразу —
Бяда, і вялікая...
Саша на базу
Прыбег,
Па шпітальных прайшоў буданах.
Паламаны дзверы і шыбы разбіты.
Ні ўздыху, ні стогну нідзе не чуваць
Параненых, хворых. Яны перабіты.
Яны на дарожках і нарах ляжаць.
Між іх медсястра, руплівая Валя,
Начальнік нязменны ляснога шпіталя.

Вачамі к світальнаму небу ляжыць
Яна пад бярозкаю чэзлай, балотнай.
І дрэўца шуміць над дзяўчынай журботна,

На ветры асеннім паціху шуміць...
А дзе ж яны, дзе партызанскія дзеці?
Дзе Сашавы дзеці, ягоных сяброў?
І следу няма. Толькі з мокрага веццяў
Амаль што аголеных дрэў і кустоў
Апошнія вецер лісткі абрывае
І з шолахам іх па зямлі развявае...

Маўчыць здратаваны, спустошаны груд.
Далёка, там дзесь пад Масквой, Сталінградам,
Праходзяць франты.
З невялічкім атрадам
Як цяжка змагацца між ворагаў тут.
Знайшоўся ж прадажнік, што цераз балота
Чужынцаў правёў, каб людзей загубіць.
Крата Серафіма напэўна работа.
З тутэйшых адзін ён так можа зрабіць.
Ён з сэрцам чартоўскім, а імем анёльскім.
Слугой стаў фашысцкім, а быў белапольскім.

### III

Усё наваколле як след абышлі
Разведчыкі пільныя і сувязныя.
Прайшлі і сялібы, і сцежкі лясныя.
Ні знаку, ні следу малых не знайшлі.
Пілі з паліцаямі пат весялуху,
Былі і ў Барках, дзе стаіць гарнізон.
Але ўсё дарэмна: ні слуху ні духу.
Як ноч камандзір, неяк згорбіўся ён.
І тужаць з ім разам байцы-партызаны,
Куды ж іх малыя, іх сем'і загнаны?..

З пустымі рукамі прыходзяць хлапцы
Да ўзлесся, дзе Саша з байцамі чакае.
Упоцемках Сашава думка блукае.

Дзе знойдзеш ты выйсце?
Дзе знойдзеш канцы?
У лесе і цёмна, і мокра, і золка.
Над дрэвамі нізкія хмары плывуць.
У вузкім прасвеце адзіная зорка
Паблісквае з сумнага неба чуць-чуць.
Вось-вось тая зорка пагасне, здаецца,
Ці шэраю хмарай яна захінецца.

І Саша рашыў неадкладна ў Баркі
Самому прабрацца, вось зараз жа ўночы,
І там да Блышанскага Паўла заскочыць —
Жыхар у Барках пражывае такі.
Псаломшчык былы. Ад духоўнага сану
Адрокся Блышанскі ўжо ў сталых гадах,
Калі ўзяў за жонку рабую Аксану,
А [illegible] ёю валоку зямліцы ў пасаг.
Бажэственных спеваў лагодны аматар
Набыў малатарню, прыдбаў сепаратар,
Пачаў разбірацца ў бычках, парсючках,
Капейку з цярпеннем збіраць хрысціянскім.
Блыхою ён быў, стаў за Польшчай
Блышанскім,
Пры немцах і старастам стаў у Барках...
Паўзмрок у пакоі, ледзь свеціць лампадка,
Ледзь чуецца шэпт, быццам шолах лісця:
— Прымусілі стаць мяне старастам, братка.
Нясу гэты крыж і пакутую я.
Бяру я анёлаў нябесных у сведкі,
Не ведаю, дзе вашы бедныя дзеткі.

Шапоча мядовым Блыха галаском.
Сядзіць ён спалоханы, босы, заспаны,
Сядзіць ён на ложку спіной да Аксаны.
А Саша з Андрэем сядзяць за сталом.
Упэўнена гэтак глядзяць і спакойна,

Нібыта не ў вёсцы, дзе немцы, яны.
А мірнай парою, часінаю вольнай
Да цешчы ласкавай прыйшлі на бліны.
Паслухалі Паўла, агледзелі хату,
І Саша кладзе пісталет на цырату.

Пранізвае Паўла ягоны пагляд.
— Хай точыць чарвяк, ён Зямлі не праточыць.
Між смерцю й жыццём і блыха не праскочыць.
Вунь там, на прылессі, стаіць мой атрад.
Не скажаш, пішы тады зараз — прапала...
Бярэ са стала камандзір пісталет.
Забегалі вочы слязлівыя ў Паўла,
У самыя пяткі душа яго ўпала:
— Падумаць мне дайце, прыпомніць як след.
Браткі дарагія, я ж вам не пагромшчык,
Я з чыстай душой чалавек, я — псаломшчык.

Па вузкакалейцы кудысьці за свет
Тайком, як заложнікаў, іх адпраўляюць.
Адпраўкі яны на паўстанку чакаюць.
Дабрыньскім паўстанку. Вялікі сакрэт.
Аб ім я даведаўся нейк выпадкова.
Відаць, з-за яго галавой налажу.
Ні слова нідзе пра мяне, ні паўслова,
Прашу, дарагія. Яшчэ вам скажу, —
Як зброю сваю не складуць партызаны,
Дык будуць іх сем'і, я чуў, пакараны...

Да ўзлесся, дзе бегма, а дзе і паўзком,
Андрэй з камандзірам спяшаюцца разам.
Патруль асвятляе ракетаю часам
Асенняе поле імгненным святлом.
Тады яны падаюць хутка ў разору,
К зямлі прыпадаюць халоднай, нагой.
Ды вось ужо гоман даносіцца бору,

Шуршыць ужо верас сухі пад нагой.
А ў хаце нацэпленай Павел трасецца,
Не можа пад коўдрай ватовай сагрэцца.

— Нявыкрутка выйшла сапраўдная тут,—
Шапоча ён хутка, нібы апантаны,—
Не скажаш — прыкончаць цябе партызаны,
А скажаш, дазнаюцца немцы — капут.
І мне недарэмна вясною кукуля
Куваць не схацела ні разу ў адказ.
Прагневаўся бог, што пакінуў царкву я,
І час надышоў, мой пагібельны час.
Лепш кіну мірскую я марную справу
Ды зноў заспяваю ўсявышняму славу!..

Хадзіла па хатах удзень у Барках
Адна багамолка — старая пляткарка,
Якая навіны разносіла шпарка
І ўсё разумела ў гаданні і снах.
— Відзенне было цудадзейнае ў Паўла,
Два старцы святыя прадсталі прад ім,
І раптам лампадка ярчэй запалала,
Ды гэтакім ясным святлом незямным.
Вядома, то божая вестачка з неба,
Што Паўлу вяртацца ў псаломшчыкі трэба.

## IV

Крыху расступаецца лес па баках.
Відзён на паляне маленькі паўстанак.
Каза на службовы ўзнімаецца ганак,
Таполя галлё апускае на дах.
Клубы пакідаючы дыму і пары,
Тут летась праходзіў штодня паравоз.
Цягнуў ён састаў, вёз сельмагам тавары,
Ён вёз трактарыста, райкомаўца вёз,

Настаўніка новага ў новую школу,
І кола падгрукваала весела колу.

Трымаючы жэзл і сцяжок, на перон
У форменнай новай фуражцы спакойна
Выходзіў вусаты Мікола павольна.
Гавораць, што слухаў з прыемнасцю ён,
Калі называлі ў размове часамі
Начальнікам станцыі людзі яго.
А хто ён такі? Памяркуйце вы самі:
На станцыю ўсю ён адзін усяго.
Начальнік ён сам, і памочнік тым часам,
Касір, прыбіральшчык і стрэлачнік разам.

Як сумна цяпер сустракаць паязды,
Выходзіць са сцягам і жэзлам Міколу.
Вязуць яны Гітлеру хлеб і жывёлу,
І карнікаў толькі прывозяць сюды.
Вязуць пад канвоем людзей у няволю,
На мукі, на смерць паязды іх вязуць.
І цяжка да слёз Мікалаю, да болю,
Тым людзям няшчасным у вочы зірнуць.
Тут дыхаць начальніку робіцца цяжка.
Да лепшых часін прыхавана фуражка.

Пакінуў ахвотна б паўстанак стары:
К таварышу Сашу ўсё цягне старога.
Але партызаны начальніку строга
Сказалі:
— На месцы сядзі да пары,
Сачы за чыгункаю, будзь нашым вокам.
Прыдбаў ён казу, а яшчэ і касу:
Лужок быў цудоўны ў Міколы пад бокам,
І сенам мурожным карміў ён казу.
Ён жыў бабылём, непрыкметны, маўклівы,
На выгляд пакорлівы і баязлівы.

Надвор'е нядобрае, сырасць і стынь.
Калматыя хмары нібыта з аўчыны.
Прыгнаны малыя, прыгнаны жанчыны
Канвоем на ціхі паўстанак Дабрынь.
Замкнулі ў вагончыку іх канваіры.
Вагон адстаўны: ён без колаў даўно
Стаіць ля пуцей. Праз вялікія дзіры
Палоннікам шэрае неба відно.
Ні свечкі, ні печкі ніякай няма там.
Стаіць ля вагона фашыст з аўтаматам.

Прыгожы куточак улетку Дабрынь.
Якія дубровы, якія гаі там!
Блакітнаю грэчкай, бурштынавым жытам
Яны атачоны, дзе позірк ні кінь.
А колькі крыніц! Ля крыніцы крыніца.
Такія празрыстыя, чыстыя ёсць, —
Напіся, засні каля іх, і прысніцца
Пад плюскат струменяў табе маладосць.
У вочы зірне яна першым каханнем
І твар твой асвеціць вясенnім світаннем.

І, можа, адгэтуль за Піну, за Стыр,
Праз цёмныя пушчы, праз быстрыя плыні
Да Кіева конь прабіраўся Дабрыні,
І даль з-пад рукі аглядаў багатыр.
І, можа, з Дабрынскай дубровы асілак
На паліцу вырваў калісьці сабе
Дубок каранасты, каб рускаю сілай
Памерацца з ворагам у барацьбе.
І, можа, тут маці яго выпраўляла,
Услед на гасцінец пусты паглядала.

Ды ворагам гоні спустошаны ўсе,
Ды позняя восень па лесе блукае.
Няветліва гэты куток выглядае

Сягоння ў асенняй суровай красе
Зялёных бароў і дуброў медналістых...
Цяпер не да казак. Паўстанак глухі.
Вартуюць дзяцей на паўстанку фашысты,
У свет, у жыццё ім закрылі шляхі.
Пасмоктвае піпку на ганку Мікола.
Нявесела ён паглядае наўкола.

Хто ж зараз на выручку прыйдзе малым,
Пакуль не звязуць іх фашысты кудысьці?
Няма ні ратунку, напэўна, ні выйсця.
А тут у прыдачу яшчэ Серафім
Пад'ехаў, а з ім паліцаяў дзесятак.
З Баркоў прыляцелі сюды груганы.
Па ўзлессі, як тыя сабакі ля ятак,—
Мікола глядзіць,— патрулююць яны.
«Што зробіш? — ён думае.— Божа мой, божа.
Хто ў гэту часіну малым дапаможа?

Хоць свежага ім прынясу малака.
Навокал чужыя, а з нашых нікога.
Адзін я, стары я, а ворагаў многа...»
З даёнкай начальнік ідзе да хляўка.
— А хто ж у закутку залез у салому?
Вунь шапка-вушанка?! Тфу, не разбярэш —
Жывая душа, ці здаецца старому?..
Вылазіць... Ідзе... Гэта ж, воўк яго рэж,
Андрэй-пагранічнік, разведчык з атрада.
І сэрца Міколава рада, ой рада!

З канвоем пакончылі да цягніка
Байцы-партызаны.
Няма больш канвою.
Выходзяць малыя з няволі на волю.
І ўбачылі людзі, як Сашы рука
Змахнула слязу са шчакі непабрытай.

Як дзеці знясілены... Цяжка пазнаць.
Нібы васілёчкі з папіклага жыта,
Іх вочы са змучаных твараў глядзяць.
І Саша малых прыціскае да сэрца,
І сам, як малое дзіця, ён смяецца.

Хай хлеба малыя па лусце з'ядуць,
Хай вып'юць яны малака на дарогу.
Апошнюю Саша зрабіў засцярогу.
Да лесу кабеты і дзеці ідуць.
Вядзі іх, сцяжынка, туды, дзе надзейны
Прытулак ім дасць край палескі лясны.
Сустрэне дзяцей там спакой цудадзейны,
Там дзецям прысняцца харошыя сны.
Малых ужо лес ад пагляда ў хавае,
А Саша ўсё ўслед ім глядзіць, паглядае...

Прыціхла Дабрынь пад сцюдзёным даждком.
Пакінулі дзеці й жанчыны паўстанак.
У лесе чакае іх новы прыстанак.
Той памятны дзень быў Кастрычніка днём.
І ў кожнай зямлянцы, акопе, шпіталі
Альбо ў партызанскім лясным будане
Кастрычнік другі франтавы сустракалі,
Чым толькі маглі сустракаць на вайне.
Старанна атрад рыхтаваўся да свята.
Ёсць толу багата, гранат ёсць багата.

Даносіцца ўрэшце гудок цягніка.
Ужо адгалоскі ў лясах загучалі.
Выходзіць у форменнай шапцы начальнік,
Спыняючы поезд узмахам сцяжка.
Ахова стаіць ля дзвярэй паязная.
Чакалі пагрузкі чужынцы, відаць,
Ды стрэламі стрэла братва іх лясная,
Паспела гранатамі іх «прывітаць».

Вось так надышла іх апошняя рата —
Расплата за ўсё. Тут, на месцы расплата!

Спяшаецца Саша агледзець цягнік.
Дабра нацягаў сюды шмат чужаніца.
Тут жыта ляжыць у мяшках і пшаніца,
Ячменю, аўса навалок рабаўнік.
Усё наваколле ім абрабавана.
У клетках і качкі, і гусі крычаць.
Ну вось і апошняя пломба сарвана,
Апошняя ў гразь паляцела пячаць,
Дзе свастыку ў лапах сваіх кіпцюрастых
Арол заціскае імперскі, глюгасты.

Яшчэ пасажырскія ў тым цягніку
Вагоны былі.
— Што ж, выходзь, грамадзяне.
Вось гэта вяртаюцца з лесу сяляне.
Гавораць:
— Валілі дубы ў дубняку.
Усю запаветную ссеклі дуброву.
Прымусілі гвалтам у лесе рабіць.
Расставіў фашыст па дуброве ахову.
Хоць плач, хоць не плач, ты павінен рубіць.
Якія вывозяць дубы на чужыну!
На ворага гнулі, на вылюдка спіну.

І Саша гаворыць вяскоўцам:
— Дзядзькі,
Бярыце сякеры і пілы свае вы,
На фланг, калі ласка, прашу вас, па левы.
А гэта,— пытаецца ён,— хто такі?
Адказваюць людзі:
— З Нямеччыны гіцаль,
Ён следчы цяпер у фашысцкім судзе,
З ім поруч напарнік — гестапаўскі шпіцаль,

За ім паліцай...
І што гэтай брыдзе
Яшчэ гаварыць? Вельмі ясная справа.
Паказвае Саша рукою:
— Направа!

А вунь гарадскія жанчыны стаяць,
Абутак стары і адзенне ў іх клумках.
Трывожыць жанчын неадступная думка —
Як гэта на крупы і хлеб абмяняць?
І Саша гаворыць:
— Жанчынкі, вазьміце
Пшаніцы, ячменю і жыта з сабой.
Дамоў прынясіце, дзяцей накарміце.
Адзначце Кастрычнік усёю сям'ёй.
Бярыце хутчэй: наш прыпынак кароткі,
Ды злева, к дзядзькам, станавіцеся, цёткі.

Бяжыць да паўстанка народ напраcткі
З бліжэйшых паселішчаў, усхваляваны:
Пачулі, што нашы прыйшлі — партызаны.
— Састаў разгрузіць памажыце, браткі,
Вазьміце свой хлеб,— голас чуецца Сашы,—
У вашых дзяцей яго вораг забраў.
Што нашым было, будзе зноў яно нашым,
Усё, што Кастрычнік працоўнаму даў.
Так Саша гаворыць, і поўны ён веры
І сам адчыняе вагонныя дзверы...

Дык вось яны,— Саша глядзіць,— два бакі,
Стаяць нерухомыя, бок супраць боку.
Запомніць іх трэба і сэрцу, і воку.
Налева зірнеш — там блішчаць тапаркі,
Там шчыльным натоўпам стаяць лесарубы.
Жанчыны ля іх, партызаны ля іх.
І сціснуты строга і грэбліва губы

Ва ўсіх, куды Саша ні гляне, ва ўсіх
Так губы маўклівыя сцяты сурова,
Нібы ўжо сказалі рашучае слова.

Направа зірнуў ён. Як курам на смех,
Мізэрная горстка іх. Бруд чалавечы:
Стаяць яны побач — разбойніцкі следчы,
Яшчэ паліцай ды гестапаўскі шпег.
Павесілі пізка падонкі галовы.
Адразу і суд і адразу прысуд...
Пара ўжо. Цягнік да адпраўкі гатовы.
Намечан яму камандзірам маршрут.
І заклік напісан святочнага рэйда:
«Кастрычніку — слава!» — разборліва крэйдай.

На сценах вагонаў відаць, на дзвярах
Той заклік, вялікія гэтыя словы.
Глядзі, ужо алы, як золак вясновы,
Над лакаматывам калышацца сцяг.
Байцы да вагонаў спяшаюцца нашы.
Вось-вось загучыць адыходны гудок.
Стаяць лесарубы яшчэ каля Сашы:
— Вазьмі ў свой атрад нас, таварыш-браток.
Няма нам дарогі інакай як з вамі.
Вазьмі нас усёй талакой з тапарамі.

Павольна Дабрынь пакідае састаў.
Кабеты махаюць рукамі зычліва.
А хто ж за саставам імчыцца імкліва?
Імчыцца Мікола, ён ледзь не адстаў.
Паспеў адкапаць ён за хлевам бярданку.
«Без зброі цяпер, што без рук, прападзеш».
І вось ад'язджае начальнік з паўстанка.
Казу падарыў ён: «Ат, воўк яе рэж».
Хутчэй і хутчэй колы грукаюць звыкла.
Мільгнула Дабрынь між дубамі і знікла.

Пакінулі людзі паўстанак зусім.
Далёка ўжо грукат гучыць цягніковы.
Дабрыньскія зноў задрамалі дубровы,
І выпаўз тады з хмызняку Серафім.
Ён выразаў кульбу, ідзе ён, кульгае.
Прабітая куляй, распухла нага.
Жыллё чалавечае ён абмінае
Балотам, гушчарам як толькі мага.
Узяў на Баркі, к гарнізону, кірунак.
Ён можа знайсці толькі там паратунак.

V

То цераз алешнік, то праз дубнякі,
То борам, нібыта жалезная змейка,
Паўзе, выгінаецца вузкакалейка.
І так падыходзіць яна да ракі.
Праўдзівей, да рэчкі той самай, якую
Тутэйшы народ Серабранкай назваў.
Вы, можа, не чулі зусім пра такую?
Яшчэ да вайны я не раз там бываў.
Хадзіў на рыбалку я з першай заранкай,
Каб стрэцца на золку з маёй Серабранкай.

Лавіў на жыўца, на блясну шчупака.
Наведваў цудоўны вірок акунёвы.
Заўсёды хвалілі яго рыбаловы,
Мясціна выдатная для рыбака.
Бяжыць Серабранка, плюскоча ўсё штосьці.
Шумяць на ўзбярэжжы яе лазнякі.
А поруч грукочуць бадзёра на мосце,
Бягуць у палескую даль цягнікі...
Забыта ля моста рыбалка: там дзоты,
Там крупаўскай маркі стаяць кулямёты.

Там не рыбаловы сядзяць, а стралкі.
Прыстрэлена добра мясцовасць. Не проста

Цяпер падысці да знаёмага моста
Стаяць вартавыя ля ціхай ракі.
Данасіцца рогат з зямлянак і жарты,
Нібыта няма ўжо ніякай вайны.
Хто дрэмле, хто спіць, а хто рэжацца ў карты.
Як дома, сябе адчуваюць яны.
І ў чыстай маёй Серабранцы ля кручы
Фашыст не спяшаючы мые анучы.

Ужо астаецца ісці цягніку
Да моста якіх-небудзь пару хвілінак.
Ужо недалёка, нарэшце, прыпынак.
І хлопцы прыціхлі, стаяць начыку,
Гранаты трымаючы напагатове.
Нязвычна суровыя твары ў байцоў,
І ў Сашы заблісҡалі вочы суровей.
Агледзеў атрад, па вагонах прайшоў
І прагна чакае: вось-вось ля палянкі
Бліскучая стужка мільгне Серабранкі.

Як толькі уз'ехаў на мост паравоз,
Саскочылі хлопцы з вагонаў.
Гранаты
Ля дзотаў ірвуцца, зрываюць накаты.
Асколкі ляцяць і наўпрост, і наўскос.
Няважныя справы чыгуначнай варты.
Гульню пачалі яны, мусіць, дарма.
Граната ў бліндаж — біты іхнія карты.
Агонь толькі бліснуў — і вашых няма!
Пад мост ужо хлопцы спускаюцца долу,
Зарады нясуць яны добрыя толу.

Але не змаўкае над рэчкаю бой.
Вунь раненых к лесу нясуць партызанкі.
Вунь, тол упусціўшы на дно Серабранкі,
Зрываецца з фермы крутой маставой

Услед падрыўнік, збіты куляй варожай,
І нашы байцы дзе-нідзе заляглі.
І Саша ў запале стрымацца не можа.
— За мною! — ён кліча.
І хлопцы пайшлі.
Мінае хвіліна, другая хвіліна.
Памалу сціхаць пачала страляніна.

Адказвае вораг слабей і слабей.
Знясілеў ужо ён, амаль захлынуўся.
Ды што ж гэта наш камандзір пахіснуўся?
Рукой падхапіў камандзіра Андрэй.
— Таварыш,— гукнуў ён з трывогаю,— Саша!
Таварыш,— схіліўшыся нізка, заве.
Ляжыць камандзір і ні слова не кажа,
Ляжыць на пажоўклай халоднай траве.
У міг пабялелы, у міг пастарэлы...
Бой скончан, заціхлі разрывы і стрэлы.

Байцы камандзіра да ўзлесся нясуць,
Нібыта малое дзіця, асцярожна.
Жыцця ані кроплі праліць ім няможна.
Павольна яны беражочкам ідуць.
Лягчэй ужо Сашу. Ён трохі ачуўся.
Вады папрасіў ён. Напіўся вады.
Зноў голас яго аслабелы пачуўся —
Зірнуць захацелася Сашу туды,
Дзе толькі што бітва ля моста грымела.
Спыніў ён байцоў на хвілінку.
Сцямнела.

І гэтак зрабілася ціха вакол,
Як перад вялікаю бурай бывае.
Ды полымя раптам з-пад моста шугае.
І рушыцца мост, і хістаецца дол,
І рэха гучыць перуновым раскатам.

Так, гэта грыміць партызанскі салют.
Грыміць ён у гонар вялікага свята,
У памяць сяброў, што загінулі тут.
Далёка ляцелі тады адгалоскі
Праз хмурыя пушчы, праз сумныя вёскі.

А дзесь за Дабрынню, ў лясной глушыні,
Ля дымных кастроў у зацішнай лагчыне,
Кармілі грудзьмі немаўлятак жанчыны.
Для большых ужо булькатаў на агні
Заскварапы суп — пачастунак святочны.
Быў хлеб там, хай чэрствы, была там і соль.
Здавалася: лес не занадта ўжо змрочны,
Не вельмі ўжо золкая восені золь.
Шумела яловае мокрае вецце.
Кастрычнік ішоў, усміхаліся дзеці.

Так Саша Кастрычнік адзначыў як след...
Даўно ўжо, даўно гэта ўсё адбылося.
Далёка ўжо тая трывожная восень.
З тых дзён многа зім прамінула і лет.
Змяніліся к лепшаму справы на свеце
За гэтыя мірныя нашы гады.
І ўжо юнакамі зрабіліся дзеці,
Што спалі ля вогнішча ў лесе тады.
Былое памалу бляднее прад новым,
Але не забыць аб тым часе суровым.

*1956 г.*

ЗМЕСТ

На белорусском языке

*Алексей Александрович Зарицкий*

**В дорогу**

Рэдактар М. Ц. Кірэенка
Мастацкае афармленне Л. М. Марчанка
Мастацкі рэдактар Н. Л. Шаўшукова
Тэхнічны рэдактар А. У. Івашка
Карэктар І. С. Яромчык

АТ 00312. Здадзена ў набор 20/III 1973 г. Падпісана ў друк 15/VIII 1973 г. Фармат 70×90$^{1}/_{32}$. Пап. друк. № 1. Ум. друк. арк. 5,265. Ул.-выд. арк. 4,29. Тыраж 15 000 экз. Заказ 204. Цана 22 кап.

Выдавецтва «Народная асвета» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Ленінскі праспект, 85.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі, Мінск, Ленінскі праспект, 79.

Надрукавана ў друкарні «Перамога», г. Маладзечна, Прывакзальны зав., 11
Зак. 3396.

